PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 8 (2076) ГОД XLI БЕЛАСТОК 25 ЛЮТАГА 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)



*З цыкла "Роднае Падляшша".* **Фота Юркі Трачука**

## Востраў Сямятычы

Аўтобусны вакзал у Сямятычах звонку нічым асаблівым не вылучаецца. От, глянуўшы, можна сказаць, што як і ў любым іншым мястэчку. Некалькі стаянак для адпраўкі аўтобусаў, невялічкі будынак і стрэлка на ім, якая ўказвае дарогу ў туалет. Абстаноўка, якая яшчэ пару гадоў таму можа і не надта заахвочвала пасажыраў — прыкладна з Беластока ў Варшаву — высесці тут, праламаць косці і... скарыстаць з таго, што прапаноўвае згаданая стрэлка.

Усё гэта, аднак, не зусім так. Сваім палажэннем Сямятычы з'яўляюцца істотным камунікацыйным вузлом. Гэта праз Сямятычы пралягаюць шляхі ў Варшаву і Люблін. Таксама і на пагранічны пункт у Полаўцах. Пералік тут аднак не канчаецца. З непрыкметнага вакзала ў Сямятычах можна раз'язджацца не толькі па Польшчы, але і... па ўсім свеце. Тры рэгулярныя аўтобусныя лініі вядуць за ўсходнюю мяжу: Тракай (Літва), Маладзечна і Мазыр (Беларусь). Адна рэгулярная лінія (раз у тыдзень, пятніца) вядзе ў Брусель (Бельгія), а ў летнім сезоне ходзяць яшчэ аўтобусы ў Брэду (Нідэрланды) і Лондан (Вялікабрытанія). Наўрад, ці ў такім Беластоку знойдзецца такі выбар спалучэнняў, калі, зразумела, ідзе пра дзяржаўны ПКС.

Дырэктар сямятыцкага ПКС **Збігнеў Радомскі** паведаміў, што ў Польшчы агулам 174 прадпрыемствы ПКС. Кожнае з іх фактычна з'яўляецца самастойнай фірмай, якая вядзе сваю незалежную фінансавую палітыку. *Дзяржаўнасць* ПКС заключаецца ў тым, што падпарадкоўваецца ён Міністэрству транспарту і марской гаспадаркі. У мінулым годзе сямятыцкі ПКС сабраў максімум балаў у ацэнцы міністэрства ў ліку падобных прадпрыемстваў, што і паставіла яго ў ранг самых лепшых у краіне.

— Самай рэнтабельнай галінай нашай дзейнасці, — сказаў З. Радомскі, — з'яўляецца турызм. У мінулым годзе прадалі мы білетаў на 72 мільярды старых злотаў, з чаго 23 мільярды ўзяліся менавіта з турызму. Трэба тут аднак усвядоміць, што вялікія сродкі адводзяцца на рэкламу.

— Ці паездкі ў Брусель маюць таксама турыстычны характар?

— Бельгія ў нас папулярная ад якіхсьці 10—12 гадоў. Праца, за якой туды едуць людзі, на тым жа ўзроўні рэнтабельнасці, што і за акіянам, але вось падарожжа нашым аўтобусам у Брусель каштуе ўсяго 120 новых злотаў. Гэта і пра ўсё вырашае. У Бельгіі быццам больш ганяюць нелегальных рабочых, але то невялікая перашкода, бо і ўсюды падобна ставяцца да іх.

— Паводле даных, якія трапіліся мне ў Беластоку, Сямятычы з'яўляюцца тэрыторыяй, дзе беспрацоўе крыху ніжэйшае.

— Усякая статыстыка вельмі падманлівая, — адказаў мне на заканчэнне дырэктар. — Калі б усе сямятыцкія захацелі раптам вярнуцца з Бельгіі, была б у нас сапраўдная катастрофа.

Паводле дырэктарскай сакратаркі, якая перапрацавала на гэтай пасадзе 10 гадоў, у Сямятычах толькі некалькі сем'яў, якія ніколі ў Бельгіі не былі. Шмат хто заседжаны ўжо там, людзі абзавяліся сем'ямі.

Дзеля справядлівасці мушу адзначыць, што вакзал ПКС, хоць і пазбаўлены манументальнасці, але чысты ўсярэдзіне і выбіты панеллю. Будынак жа, які прапаноўвае прыезджаму згаданая ўжо двойчы стрэлка, выкладзены да апошняга сантыметра керамікай і культурны, агульна кажучы.

Цэнтр Сямятыч можа выклікаць ў прыезджага, а прынамсі ў мяне выклікаў, уражанне вялікага горада — у кансерватыўным сэнсе гэтага слова. Забудова тут збітая, шмат вулачак. Ды як тут шукаць сляды беларускасці, не ведаючы нікога? У Сямятычах, так па-сапраўднаму, быў я першы раз. Але Сямятычы, як неўзабаве мне выявілася, урбанізаваныя і ў больш мадэрным значэнні гэтага слова. Адшукаць патрэбнага чалавека не так ужо і цяжка. Хопіць папросту глянуць у мясцовую або і ваяводскую тэлефонную кніжку — у Сямятычах амаль у кожным доме тэлефон. Мясцовая тэлефонная станцыя настолькі ёмістая, што змагла б памясціць у сабе і яшчэ пару падобных гарадоў. Злучаная яна з беластоцкай АТС, што і стварае з іх адну сістэму сувязі.

Неяк на зломе студзеня і лютага здарылася ў Сямятычах трагедыя. Ён быў праваслаўны, а яна каталічка. Паводле людзей, то яны ўжо ад нейкага часу з сабою хадзілі, але наканец справа выявілася і перад бацькамі, бо хлопец запрасіў дзяўчыну на „стаднёўку". І тыя, і тамтыя бацькі нібыта мелі катэгарычна забараніць ім сустракацца.

*Працяг на стар. 3*

## Шляхам аднаго злачынства

Весткі пра памардаваных, пакінутых ці падкінутых немаўлят усё часцей з'яўляюцца на старонках газет, у тэлебачанні, радыё.

*У Сталёвай Волі паліцыя арыштавала 22-гадовую жанчыну, якая пакінула дзвухдзённае дзіця ў хляве. Цела немаўляці вывалак сабака.*

*На сметніку непадалёк Лембарка паліцыя знайшла цела немаўляці, якое пасля нараджэння задушыла 22-гадовая жанчына,* — інфармуюць папулярныя тыднёвікі.

Па-рознаму такія весткі ўспрымаюцца людзьмі. У адных узнікаюць сумныя рэфлексіі, этычныя разважанні, думкі пра мацярынства.

Лілька К., „гераіня" такой гісторыі, не разважала.

— Зрабіла так, бо ведала што іншыя так робяць, — апраўдвалася яна.

— Яна і не першая, і не апошняя, — апраўдвалі яе многія.

Лілька К., дзеўка з беларускай вёскі, апынулася ў Беластоку, як і многія, у пошуках лепшага жыцця. Новае жыццё пачала ад нецікавай прафесійнай школы, пасля якой чакала яе такая ж нецікавая праца. Лілька К. не думала пра ўсё гэта. Новыя сяброўствы, забавы, вясёлае пансіённае жыццё сталі сэнсам яе існавання. З Манькам А. пазнаёмілася на адной вясковай забаве. Хлопец якраз служыў у войску.

Пра гэтае знаёмства Лілька К. прыгадала сабе праз тры месяцы, калі лекар пацвердзіў цяжарнасць. Ледзь адшукала яго, дарэчы, зноў на вясковай забаве. Манек А. пабялеў, калі сказала пра мацярынства.

— Замалады я для жаніцьбы, — адрэзаў жаўнер і знік з краявіду падсакольскіх музыкаў.

Час ляцеў, а Лілька К. не ведала, што рабіць.

— Яксьці там будзе, — суцяшала сябе ў думках.

Пазней, як гэта гавораць, пайшла бяда за бядою. Лілька К. страціла працу. У сям'і таксама ўспыхнулі нягчасці. Маці апынулася ў псіхушцы, брат запіваўся насмерць, бацька наракаў на процьму палявых прац. Паехала Лілька К. у родную вёску. Цяжка працавала, апекавалася братам і хворай маці.

— Ніхто не здагадаўся пра цяжарнасць дачкі, — успамінаў Мікола К., бацька Лількі. — Загарала на сонцы, працавала як вол, а ў суботы на танцы ездзіла.

У Беласток Лілька К. вярнулася, калі пачула першыя родавыя схваткі. Там не было яшчэ дзе зачапіцца. Лілька К. хадзіла цэлымі днямі па горадзе, наведвала старых знаёмых, вечарамі гуляла на дыскатэках.

Аднойчы сустрэла Сільвію С., сяброўку са школьнай парты. Праўда, каротка сядзелі за той жа партай, бо Сільвія С. пасля некалькіх месяцаў кінула школу. Зараз, як і Лілька К., была яна беспрацоўнай „на куранёўцы". Падабалася ёй аднаўленне знаёмства з Лількай К. Разам з аднадумніцай, вядома, цікавей. З такой сяброўкай лягчэй сустрэць прыгожага

*Працяг на стар. 5*

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Piętnaście lat temu mówiono: "Solidarność" — to partia, która udaje pracowniczy związek zawodowy. PZPR — to związek zawodowy władzy, który udaje partię polityczną. Od tego czasu niewiele się zmieniło. Jedynie PZPR zmieniła nazwę na SdRP. Związek zawodowy walczy przede wszystkim o interesy swoich członków... W miarę jak partie komunistyczne stawały się związkami zawodowymi władzy, ich prominenci przydawali sobie nagród i przywilejów. Najcenniejszy był przywilej nieodpowiedzialności i bezkarności. O ile w otwartym systemie demokratycznym za każde wyższe stanowisko płaci się zwiększeniem odpowiedzialności, o tyle w komunizmie im wyżej człowiek się wspinał, tym więcej mu było wolno, tym bardziej był izolowany od społeczeństwa i chroniony przed wszelką odpowiedzialnością... Aktywna część dawnego aparatu władzy bynajmniej nie dąży do powrotu komunizmu. Oni dopiero dzisiaj żyją pełnią życia — kiedy nadal rządzą, ale są prezesami, członkami rad nadzorczych, posłami, ministrami w autentycznym systemie politycznym, a nie w dworskiej strukturze władzy. Do tego mają na własność prawdziwe pieniądze, a nie reglamentowane dobra. Będą więc kapitalizmu bronić jak niepodległości.*

*Gazeta Wyborcza, nr 26*

***

*Do wsi socjalizm przyjechał zdezelowanym autobusem. Codziennie rano zabierał on trzeźwych chłopów, a o szesnastej zwracał pijanych chłopo-robotników.*

*Polityka, nr 5*

***

*Dramatyczna sytuacja panuje na Białorusi, której rusyfikacja jest tak daleko posunięta, że trudno stwierdzić, czy jeszcze istnieje tam świadomość narodowa. Polska powinna się stać Piemontem białoruskich ruchów narodowych i narodowościowych. Mamy przecież Białorusinów na Białostocczyźnie, a to zobowiązuje. Brakuje sensownego podejścia do działalności religijnej. Jest rzeczą bardzo niedobrą, jeżeli polski Kościół zaczyna zajmować się akcją misyjną, nawracaniem Rosji na katolicyzm, co oznacza walkę z prawosławiem — religią Rosji, Białorusi i Ukrainy,* — сказаў рэдактар парыжскай „Культуры" Ежы Гедройць.

*Wprost, nr 5*

***

*Колькі ж чалавек у Вярхоўным Савеце Беларусі гаворыць па-беларуску? Старшыня заканадаўчага органу Сямён Шарэцкі заняў тут своеасаблівую пазіцыю. Заявіў, што пытанні бюджэту будзе весці на рускай мове, а праблемы культуры — па-беларуску. А што, калі будзе разглядаць праблемы культуры ў бюджэце? Шмат гаворыць аб нацыянальнай годнасці і культуры — але ніхто ад яго пакуль не пачуў ні слова па-беларуску. На беларускамоўныя пытанні журналістаў ён адказвае па-руску. Нават дэпутаты, якія без праблем валодаюць беларускай мовай, лічаць непатрэбным дэманстраваць гэтую сваю якасць. Аляксандр Дабравольскі тлумачыў напрыклад, што выступленне на беларускай мове можа пашкодзіць станоўчаму праходжанню таго ці іншага важнага пытання.*

*Свабода, н-р 4*

***

*Przeciętny Czech zna tylko jedno wcielenie Polaka — dla niego wszyscy Polacy to handlarze towarami złej jakości i wątpliwego pochodzenia, nieuczciwi, bezczelni. Dla Litwina Polak to zeszłowieczny szlachcic, wykształcony, obłudny oszust, nacjonalista. Na Ukrainie określenie „Lach" stosuje się do człowieka złego, łatwo wpadającego w gniew, podstępnego, pełnego nienawiści. Dla Niemców Polacy nie są ani pracowici, ani leniwi, ani godni zaufania — po prostu nie istnieją w sensie politycznym, ekonomicznym czy kulturalnym.*

*Wprost, nr 5*

***

*Dziewczę niewinne, w zapasce i chuścinie na płowej główce, śpiewa piosenkę z repertuaru „Mazowsza" w aktualnej wersji:*
*Jadu goście, jadu*
*Kiele mego sadu.*
*Jedni są z KGB,*
*A drudzy z Mosadu.*

*Polityka, nr 5*

Развіваецца народная творчасць!

***

*Pijane sześcioletnie dziecko trafiło do szpitala w Suwałkach. Dzięki pomocy lekarzy chłopiec następnego dnia nie miał już nawet kaca. Pod nieobecność matki sześciolatek zaprosił do swojego mieszkania kolegów. Z kumplami „gospodarz" wypił sześć kieliszków dżinu i poczuł się trochę niedobrze. Obecnie chętnie opowiada w przedszkolu o całym wydarzeniu, o tym, jak „fajny żart" zrobił.*

*Kurier Poranny, nr 29*

***

*Według raportu Europejskiego Banku Odbudowy i Rozwoju około 45 miliardów dolarów pochodzących z zachodniej pomocy dla Rosji zostało po prostu skradzionych przez skorumpowanych oficjeli rosyjskich i zdeponowane na kontach bankowych na Zachodzie.*

*Gazeta Wyborcza, nr 30*

Разумныя людзі ведаюць, як пазычаць грошы, а менавіта так, каб яны зараз вярнуліся назад. Заходнія банкі надалей маюць свае грошы, а Расія як дзяржава будзе дзесяцікі гадоў плаціць пастаўкай сыравіны за пазычаныя грошы.

***

*Mało kto wierzy, że we władzach Polski nie ma dziś agentów.*

*Życie Warszawy, nr 30*

Адкуль іх столькі ўзялося?

***

*У Беларускай Акадэміі навук вядзецца антыбеларуская, антынацыянальная, шавіністычная дзейнасць навукоўцаў-асаднікаў, для якіх ніколі не было беларускай мовы. Пісаць аб тым, што ў нацыянальнай Акадэміі Беларусі мова павінна адраджацца і пашырацца, а яе акадэмікі павінны быць жывымі апосталамі сучаснага беларускага рэнесансу, алагічна. Шаноўныя акадэмікі, спыніцеся, задумайцеся і адумайцеся.*

*Наша слова, н-р 4*

Мінская Рада таварыства беларускай мовы спадзяецца, што ніколі не будуць лічыцца навуковым дасягненнем заслугі за знішчэнне беларускай мовы. Оруэлаўскі свет!!!

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

10 лютага 1996 г. на 91 годзе жыцця памёр **праф. д-р габ. Лешак Асоўскі** — вядомы славіст, адзін з пачынальнікаў навуковага вывучэння беларускай мовы за межамі Беларусі, адстаўны прафесар Пазнанскага універсітэта імя Адама Міцкевіча, былы член Польскай акадэміі навук. Галоўнай тэмай даследаванняў на працягу ўсяго жыцця вучонага былі палескія гаворкі. У сваіх публікацыях пераканаўча паказаў ён, што беларуска-ўкраінская моўная мяжа, якая праходзіць на Палессі, не пастаянная, а рухомая, у выніку чаго існуе зона пераходных гаворак ад беларускіх да ўкраінскіх.

**Міністэрства замежных спраў Польшчы** накіравала пратэст супраць выказванняў лідэра расейскіх нацыяналістаў і дэпутата Думы **Уладзіміра Жырыноўскага**, які сказаў, што „калі Польшча хоча быць свабоднай, няхай будзе свабоднай — і ад Савецкага Саюза, і ад НАТО, а калі будзе весці сябе як прастытутка, якая перабягае ад аднаго кліента да другога, то ўсё скончыцца вельмі кепска. Чарговы кліент задушыць прастытутку". МЗС выказала спадзяванне, што дэпутаты Думы прымуць адпаведныя меры па спыненні дзеянняў, накіраваных на пагаршэнне польска-расейскіх адносін, і што ў гэтай справе возьмуць голас палітычныя аўтарытэты дэмакратычнай Расеі.

У днях 12—15 лютага інспекцыйная група Беларускіх Узброеных Сіл пабывала ў Польшчы. Членамі гэтай групы, на падставе дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, была праведзена інспекцыя аднаго з агульнавайсковых падраздзяленняў Войска Польскага, якое дыслацыруецца на поўначы краіны, на прадмет выканання Польшчай міжнародных абавязацельстваў па скарачэнні ўзбраенняў. У складзе беларускай інспекцыйнай групы былі таксама два прадстаўнікі амерыканскага войска.

**IV Сувальскі кірмаш пагранічча** прыцягнуў увагу больш за 330 экспанентаў з Польшчы, Літвы, Францыі, Беларусі, Расеі і Украіны. На працягу трох дзён кірмаш наведалі тысячы жыхароў Сувалкаў і наваколля, а таксама сотні айчынных і замежных прадпрымальнікаў. З візітам на кірмашы пабывалі таксама афіцыйныя дэлегацыі Літвы, Гродзенскай і Калінінградскай абласцей.

**Свіцязь** — так называецца фотавыстава, якая з'яўляецца плёнам трохдзённага пленэра над аднайменным возерам, арганізаванага беластоцкім „Classic Studio" і фотаклубам „Гродна" для майстроў фотааб'ектыва з Менска, Гродна і Беластока. На выставе ў Ратушы ў Беластоку, якая будзе адкрыта да 10 сакавіка, можна паглядзець работы, між іншым, **Уладзіміра Білды, Юрыя Палуцкага, Аляксандра Ласмінскага** з Беларусі ды **Віктара Волкава і Генрыка Рагазінскага** з Беластока. Потым фотавыстава будзе экспанавацца ў Менску.

**Бюро па справах бежанцаў і мігрантаў** пачало працаваць у Беластоку ў будынку Прытанішча для бяздомных пры вул. Сянкевіча, 81/9. Бюро будзе несці неабходную матэрыяльную, юрыдычную і медыцынскую дапамогу бежанцам і мігрантам, якія, найчасцей нелегальна, трапляюць на тэрыторыю Беласточчыны з краін СНД, Індыі, Афганістана, Пакістана і Шры Ланкі. Бюро знаходзіцца пад патранажам арганізацыі Caritas Polska, якая падобныя ўстановы адкрыла ўжо ў Варшаве, Вроцлаве і Любліне.

**У Беластоцкім ваяводстве** пражывае 701,4 тысячы людзей (448 тыс. у гарадах і 253 тыс. у вёсках). Больш за палову насельніцтва складаюць жанчыны — 359 тысяч (51,2%). У далейшым хутчэй расце колькасць насельніцтва ў гарадах, чым на вёсках. Цяпер у гарадах жывуць 64% грамадзян ваяводства (на 3% больш, чым у 1988 г.).

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"


> Архіўныя фатаграфічныя матэрыял з наголы 40-годдзя „Нівы".

> 400-годдзе Берасцейскай уніі.

> Забабоны і сучаснасць Беласточчыны.

> Сход Праграмнай рады „Нівы" — агляд старшыні Валянціна Сельвясюка.




## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Камісія Пятра Краўчанкі

Пастаянная камісія Вярхоўнага Савета па міжнародных справах прыступіла да разгляду каля трыццаці міжнародных дагавораў, пытанне аб ратыфікацыі якіх парламенту трэба будзе разглядзець на першай сесіі, — паведаміў старшыня камісіі Пётр Краўчанка. Акрамя таго камісія працуе над праектам спецыяльнага закона аб міжнародных дагаворах. Камісія сумесна з прадстаўнікамі міністэрстваў замежных спраў і знешнеэканамічных сувязяў разгледзела пытанні фінансавання і дзейнасці беларускіх прадстаўніцтваў і пасольстваў за мяжой, а таксама адкрыцця новых, і ўнесла свае карэкціроўкі ў дзяржаўны бюджэт.

### Яднанне партый

„За грамадзянскую і хрысціянскую салідарнасць" — пад такім дэвізам у Вярхоўным Савеце РБ адбылося пасяджэнне Палітычнага савета Хрысціянска-дэмакратычнай кааліцыі „Адзінства", у якую ўваходзяць Беларуская народная партыя, Беларуская нацыянальная партыя, Хрысціянска-дэмакратычны выбар і Беларускі хрысціянска-дэмакратычны саюз. Лідэры кааліцыі дамовіліся аб аб'яднанні вышэйназваных партый у адну, бо наяўнасць 36 палітычных партый у Беларусі вядзе да паслаблення дэмакратычнага руху, перашкаджае ў вырашэнні надзённых пытанняў.

### Апальны дэпутат

У бліжэйшы час Партыя беларускага патрыятычнага руху мае намер пачаць збор подпісаў сярод жыхароў Чкалаўскай выбарчай акругі Менска н-р 236 за адкліканне дэпутата Вярхоўнага Савета Станіслава Багданкевіча.

### БНФаўскі пікет

У Менску каля плошчы Незалежнасці Беларускі народны фронт праводзіў пікет супраць той мадэлі акцыянавання нафтахімічнага комплексу краіны, якая зацверджана ўрадам. Як сцвярджаюць пікетчыкі, падпісаны два пагадненні згодна з якімі 51% Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода і 74% аб'яднання „Нафтан" павінны перайсці да расейскіх кампаній. Пікеты будуць праводзіцца і далей, таму што прапанова БНФ абмеркаваць гэтую праблему са спецыялістамі засталася без адказу. Распрацоўкі ценявога кабінета БНФ перададзены ўжо ў фракцыі Вярхоўнага Савета на дэталёвы разгляд.

### МТЗ contra „Форд"

Калектыў эксперыментальнай вытворчасці Менскага трактарнага завода арганізаваў мітынг супраць ультыматуму пакінуць эксперыментальную базу ў пасёлку Апчак Менскага раёна. Менавіта тут плануецца ўжо сёлета размясціць вытворчасць па зборцы „Фордаў". На заводзе добра разумеюць, што без гэтага аб'екта ў МТЗ няма будучага, паколькі тут праводзяцца ўсе эксперыменты, выпрацоўваюцца новыя маркі і вузлы да іх, адным словам, атрымоўваюць пуцёўку ў жыццё славутыя „Беларусы". Удзельнікі мітынгу звярнуліся па дапамогу да прэзідэнта А. Лукашэнкі, які толькі адзін можа прыпыніць выкананне такога рашэння.

### „Беларусы ў Празе"

Пад такой назвай з 12 па 14 лютага адбыліся сустрэчы беларускіх дзеячаў літаратуры, навукі і культуры ў чэшскай сталіцы. Іх арганізавалі таварыствы Беларусь—Чэхія і „Бацькаўшчына". Праграму сустрэч склалі Скарынаўскі семінар, выставы твораў мастацтва і фотадакументаў, прысвечаных жыццю беларусаў у Празе, канцэрт класічнай музыкі ў выкананні Беларускай капэлы пад кіраўніцтвам Віктара Скарабагатава, прыём беларускай дэлегацыі ў пасольстве РБ і ў Нацыянальнай бібліятэцы Чэхіі.

### Будзе Чарнобыльскі музей

У Хойніках пачаты збор экспанатаў для Музея памяці ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі, якая здарылася ў красавіку 1986 г. Паўднёвыя раёны Гомельскай вобласці першымі прынялі на сябе страшны радыеактыўны ўдар. Аднак дзяржаўна-партыйныя чыноўнікі, баючыся персанальнай адказнасці, не адразу пачалі эвакуацыю людзей і тым самым падвергнулі іх дадатковаму апрамяненню. Чарнобыльскі музей, адкрыццё якога будзе прымеркавана да дзесяцігоддзя з дня аварыі на ЧАЭС, яшчэ раз нагадае пра пакуты людзей і пра дапамогу, якую аказала Беларусі сусветная супольнасць.

### Студэнцкі пратэст

Увечары 6 лютага невядомыя зламыснікі спалілі цяперашні дзяржаўны сцяг, які тыдзень раней быў вывешаны ў памяшканні Гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Магчыма, што гэта зрабіў нехта са студэнтаў дзённага аддзялення, якія, вярнуўшыся з зімовых канікулаў, прыступілі да заняткаў II семестра. Па факце злачынства вядзецца следства.

# У Гайнаўскай гміне глядзяць з аптымізмам

Гайнаўская гміна — „большасць — лес", аж 16 252 гектары, ворнай зямлі і сенажацяў — каля 11 тысяч гектараў, усяго абшару — каля трыццаці тысяч. 35 мясцовасцей у 25 салэцтвах. Жыхароў — за 5 600 асоб (без Гайнаўкі), больш за 17 чалавек на кіламетр. Жанчын менш чым мужчын. Што сказаць у пару словах аб гміне? Людзі, мясцовасці, дарогі, якія ўсё спалучаюць. І мары, і планы, і дзеянні. Янка Целушэцкі ўсё з большага апісаў, палічыў амаль кожную вярсту дарогі ды кожны метр трубы водаправода. Вядома, без дарог не жыць ні людзям, ні адміністрацыі. Паедзьце, пабачыце — салідныя дарогі, хай гэта будзе бітумічная, хай жвіроўка ці брукаванка, і якія мясцовасці — з гісторыяй, са старажытнымі, хоць, бывае, крыху скрыўленымі назвамі: Ласінка, Старое Беразова, Звадзецкія, Нязнаны Бор, Пасечнікі-Вялікія, Савіны Груд, Сарочa Ножка, Галякова Шыя, Рэпіска, Катоўка, Васількова, Барысаўка, Трывежа, Чыжыкі, Навакорніна, Лазіцы, Ліпіны, Арэшкава, Махнатае, Дубіны... 63 кіламетры ад сталіцы гміны ў Беласток, 20 кіламетраў ад мяжы з Беларуссю, па-суседску з Чыжоўскай, Дубіцкай, Белавежскай, Нараўчанскай і Нарваўскай гмінамі — усюды свaякі. Калісьці не толькі па дарогах ішла камунікацыя чалавека з чалавекам, але і чыгунка з большым сэнсам прабягала цераз тэрыторыю Гайнаўскай гміны, а цяпер, вось, не дабярэшся „экалагічным" цягнікам у Белавежу ці ў Бельск. У Чаромху ідуць пасажырскія цягнікі (прыпынак у Арэшкаве), валакуцца цыстэрны з палівам, хімікатамі і іншым ад мяжы з Беларуссю цераз Семяноўку, Гайнаўку ў Седльцы. Аднапуцёўкаю, без электрычнай лініі, з хуткасцю 80 км у гадзіну можна дабрацца над Семяноўскае вадасховішча, бо тут, на жаль, няма ніякага аквена.

— Здавалася б, наша гміна — блізка пушчы, мог бы ў нас развівацца турызм, — уздыхае сакратар Управы гміны **Мікалай Кандрацюк**. — Але на тэрыторыі гміны не разбудаваная турыстычная інфраструктура, хаця ёсць умовы для пешага турызму, напрыклад, у Тапіле, але трэба было б шмат інвеставаць. У планах маем давесці цякучую ваду да Тапіла, туды ад Лазіц каля 4 км, думаю, што гэта будзе рэальна ў наступным годзе.

— Калі мы ўжо пры вадзе: што з рэчкай, як на смех, Лясной?

— На тэму Лясной не буду выказвацца. Крыніца забруджання — у самой Гайнаўцы. Праўленне горада вырашыла цяпер справу ачышчальні сцёкаў, працы ўжо ў разгары, незадоўга праблема „Смярдзючкі" павінна быць вырашана.

— Бачу на вашым прыгожым, хоць старэнькім, пісьменным стале (чула, што з самога Егіпта ён), надрукаваныя планы і стратэгіі развіцця гміны.

— Калі няма грошай, ніякія „стратэгіі" на паперы не вырашаць справы. На нашай тэрыторыі робім шмат. Каб рабіць, трэба мець грошы, і мусіць іх хапіць, каб завяршыць справы. І з уласных прыбыткаў, і з датацый ваяводства, і з агенцтваў маем фінансавыя сродкі на нашы планы і задумы, якія рэалізуем. Але фінансавыя сродкі можам атрымаць пасля выпаўнення пэўных крытэрыяў, напрыклад з Агенцтва мадэрнізацыі і рэструктурызацыі сельскай гаспадаркі; шмат у чым нашы дзеянні ўспамагае Ваяводская управа. Але адзін варунак — калі інвестуем грошы свае, тады і можам атрымаць дапамогу. Хочам, каб людзям хацелася ў нас жыць, і жылі добра, сучасна, у вёсках з тэлефонамі, вадой, добрымі дарогамі, газам (гэта вельмі важнае, каб не забруджваць Белавежскай пушчы). Трэба, каб развівалася „глыбінка". Управа гміны робіць шмат намаганняў, каб разбудаваць інфраструктуру. Наша гміна была вельмі занядбаная да 1990 года. Першыя дзеянні нашага кіраўніцтва кранaлі справу водаправодаў. Да таго часу існаваў водаправод у дзвюх вёсках, а сёння вада даходзіць да амаль 95 працэнтаў вёсак. Другое — мадэрнізацыя дарог, асфальтавыя дыванікі ў 10 вёсках, рамонты даязных дарог да паасобных вёсак і на палеткі. Цяпер прымаем захады пачаць такую важную інвестыцыю, як ачышчальні сцёкаў, пакуль што ў найбольш дынамічных і найлепш развіваючыхся вёсках — у Махнатым і Старым Беразове.

— А ёсць у вас вёскі, як кажуць у некаторых суседніх гмінах, „пакінутыя Богам і людзьмі"?

— Няма ў нас такіх мясцовасцей, падобных на тыя, на якія наракаюць некаторыя суседзі. Нашы вёскі распаложаны непадалёк Гайнаўкі, і з гэтай прычыны няма такой выразнай з'явы міграцыі, хаця, калі глядзець на дэмаграфію за час 10-15 гадоў, колькасць жыхароў у гміне заўважальна паменшылася.

— Не баяцца людзі, што Белавежская пушча стане „большай"?

— Пушча — гэта за два апошнія гады бадай ці не найбольш кранаючая тэма, якая цікавіць як Раду гміны, так і ўсіх жыхароў, пакольки жывем мы на яе акраіне, а і большая частка нашай тэрыторыі — лясы. Праўленне гміны не супрацоўляецца дзеянням і прапановам Міністэрства аховы асяроддзя і натуральных рэсурсаў, якія ідуць у напрамку стварэння нацыянальнага парку на тэрыторыі ўсяе пушчы, але шмат у чым вырашэнне гэтай справы бачым іначай, чым цэнтральныя ўлады. Каб з добрым вынікам ахоўваць Белавежскую пушчу, неабходна загадзя мадэрнізаваць інфраструктуру, якая ёсць у „пушчанскіх" гмінах і ў Гайнаўцы — перш за ўсё правесці газіфікацыю гмін, элімінацыю вуглявых кацельняў, паскорыць пабудову ачышчальняў у Гайнаўцы і гміне. Трэба было б трактаваць усе гміны з акаліц пушчы прыярытэтна, надзяляючы іх крэдытамі ці датацыямі на пабудову экалагічных установак, якія давялі б да лепшай аховы Белавежскай пушчы і заахвоцілі людзей жыць у нас, працаваць. Нашы вёскі існуюць, жывуць, людзі будуюцца, найчасцей наўкол Гайнаўкі (асабліва ў Дубінах), гміна падрыхтавала месца пад новыя будаўнічыя ўчасткі — ля дарогі Гайнаўка—Ліпіны, узнікне там вялікі комплекс; месца ўжо падзелена на дзялянкі, аснашчаем іх цяпер, кожная мае па восем сотак. Месца вельмі атракцыйнае, на самой ускраіне пушчы.

— Ці іншая зямля ў гміне ёсць такой жа каштоўнай?

— На тэрыторыі нашай гміны, беручы генеральна, няма аблогаў, пустошных земляў. У некаторых вёсках, звярніце на гэта асаблівую ўвагу, людзі маюць праблемы з набыццём зямлі! Цяжка знайсці свабодны грунт, які можна было б прадаць ці аддаць у арэнду.



*Мікалай Кандрацюк — сакратар Управы гміны ў Гайнаўцы.*

— Значыць, ёсць што рабіць у гміне. Беспрацоўных у вас няма?

— Сярод моладзі выступае з'ява беспрацоўя. Настолькі, наколькі самаўрад можа вырашыць гэту праблему, даем ім занятак пры інтэрвенцыйных працах, каб у нейкі спосаб палагодзіць вынікі гэтай балючай справы.

— Упраўляецеся таксама, пэўна, і са школьніцтвам, якое поўнасцю ад 1 студзеня г.г. перайшло ў рукі самаўрадаў.

— Гэта быў наш абавязак. Маем 5 школ — у Арэшкаве, Махнатым, Новым Беразове, Навакорніне і Дубінах. У Дубінах найбольшая — каля 160 дзяцей, у іншых па 60-80 асоб... А калі ідзе пра культуру... Маем Гмінны цэнтр культуры ў Дубінах, 14 святліц па вёсках. І мусім пахваліцца нашай „візітнай картачкай" — калектывам „Арэшкі" з Арэшкава, ансамблем вядомым у гміне, на Беласточчыне, у краіне. Часта выязджае ён на канцэрты, стараемся дапамагчы транспартам, некалькі гадоў таму купілі ім касцюмы. Гэта поўныя энтузіязму, таленавітыя жанчыны. І нам таксама выпадае глядзець з аптымізмам на будучыню.

**Міра Лукша**

# Востраў Сямятычы

*Працяг са стар. 1*

Неўзабаве ён і яна павесіліся.

**Язэп Карпюк**, які вядзе ў Сямятычах шклярскі варштат, але і піша таксама вершы ды займаецца ў свабодны час музыкай, не ўважае, што з такога выпадку можна рабіць нейкія абагульняльныя высновы наконт дачыненняў паміж праваслаўнымі і каталікамі ў горадзе.

— Тут вінаватыя перад усім догмы, — сказаў ён. — Я ведаю шмат католікаў, маю таксама суседзяў ды ўсе мы згодна жывем.

На пытанне, у чым заключаецца добрая ўспрымальнасць беларускіх фэстаў у Сямятычах, Я. Карпюк адказаў, што ў кожнага народа ёсць свой інтуітыўны дух.

— Жывем мы, але кожны па-свойму гадуе ў сабе свае карані і паходжанне. Калі прыязджае да нас беларускі калектыў, то гэта так, як бы хто адчыніў кантэйнер з чыстым паветрам. Людзі могуць выявіцца са сваімі скрытымі пачуццямі і не скрываюць гэтага ад нікога.

**Мікалай Касцюк** — пенсіянер, двух сыноў, абодва ў Бельгіі — уважае, што ў Сямятычах калі хто праваслаўны, то і беларус. Аднак беларускую мову ў гутарцы на вуліцы можна сустрэць надзвычай рэдка. М. Касцюк у 80-х гадах дзве кадэнцыі быў старшынёю аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Сямятычах.

— У той час, — сказаў ён, — у Сямятычах быў адзін штатны працаўнік у аддзеле: Міхась Вішанка. Справы ішлі крыху інакш, а цяпер то нават цяжка куды-небудзь даехаць. У гэтым годзе прайшоў у нас у студзені агляд „Беларуская песня". Невялікі быў гэта маштаб, бо выступіў Язэп Карпюк, адзін саліст з Агароднік, калектыў з трох чалавек з Мельніка і калектыў (пяць асоб плюс гарманіст) з Нурца-Станцыі. Агляд адбыўся ў кінатэатры „Хробры", пашанцавала добра з публікай.

Калі М. Касцюк старшыняваў аддзелу БГКТ у Сямятычах, для беларускай дзейнасці быў адведзены пакойчык. Меў ён, праўда, даволі аказіяльны характар. М. Касцюк, будучы старшынёю мясцовай камісіі партыйнага кантролю, меў свой кабінет і ён гэта быў месцам, дзе праводзіліся пры нагодзе сустрэчы беларусаў. З таго часу ў справе памяшкання змянілася няшмат — аказіяльнасць засталася надалей. Цяперашні старшыня аддзела — **Мікалай Пракапюк**, член Галоўнага праўлення БГКТ, — з'яўляецца супрацоўнікам выбарчага штаба СЛД. Цяпер яго памяшканне, са сцяны якога пазірае партрэт прэзідэнта, служыць за месца сустрэч.

Паводле М. Пракапюка, нельга адназначна меркаваць наконт нацыянальнасці праваслаўных у Сямятычах. У галіне беларускай культуры, на яго думку, у Сямятычах існуюць вялікія патрэбы. Гарадскія ўлады, лічыць ён, калі што, дык успамаглі б фінансава канкрэтныя ініцыятывы.

Сямятыцкі праваслаўны прыход налічвае больш за шэсць тысяч вернікаў. У маштабе горада гэта меншасць, але не зусім такая ўжо і малая.

— Культурнае памежжа, — сказаў мне настаяцель прыхода **а. Андрэй Якімюк**, — якім з'яўляюцца Сямятычы, мае свае добрыя і благія бакі. Благія адышлі ў гісторыю і слава за гэта. Калі яны нават ёсць сёння, то ў іншым вымярэнні. З гэтай тэрыторыі выводзіліся правадыры бандаў, якія змагаліся за чысціню нацы. Пасля 1945-га года такія прыходы як Цехановец, Андрыянкі, Бранск, Журобіцы панеслі вялікую ахвяру за сваю культурную прыналежнасць. Тыя, што перажылі і памятаюць усё — больш вартасныя. На Бельшчыне і Гайнаўшчыне людзі самі сябе прыспалі — ім думалася і думаецца, што ў свеце заўсёды спакойна. Калі ідзе пра веравызнанне, рэлігійнасць, справы веры, то людзі тут вельмі надзейныя. Я думаю, што Гайнаўшчыне і Бельшчыне толькі б паву чыцца ў іх. Але ў нацыянальнай справе — трагічна. Калі іду ў хаты па малітве заўсёды настойліва паўтараю: з верай трэба перадаць і сваю мову. Мне кажуць: „Гэта ўсё так, бацюшка, але адкуль нам браць узор". Дык я тады сказаў, што дам ім той узор і слова сваё стрымаў. У мінулым годзе ў Слохах здзейсніўся беларускі фэст. У Сямятычы павінны прыязджаць беларускія калектывы, шмат калектываў. Калі можна мець нейкія пажаданні ў справе набору песень, то павінны яны мець патрыятычныя беларускія элементы — такія песні ўспрымаюцца тут найлепш.

У Сямятычах пяць святароў і двух дыяканаў. У час кожнай літургіі царква запоўненая. Святары ездзяць таксама па вёсках, дзе няма цэркваў, і там у вясковых святліцах служаць праваслаўным. Калі гаварыць пра духа арганізаванасці ў Сямятычах — таксама і ў нацыянальным сэнсе — то выходзіць ён, па-мойму, менавіта з царквы. Ужо ранейшыя мае суразмоўцы падкрэслівалі, што ўсякая беларуская свецкая ініцыятыва знаходзіць падтрымку ў прыходзе, а ў час прапаведзяў разыходзіцца інфармацыя пра мерапрыемствы. Айцец Андрэй Якімюк, які на ўсіх іх старaецца асабіста быць, падкрэслівае аднак, каб арганізаваліся яны ў большай лучнасці з Царквою, бо, як сам сказаў, — не выпадае яму заходзіць на канцэрт у час посту.

— У справах Царквы, то мы самі справімся, — сказаў мне на развітанне, — але ў нацыянальных, то просім звярнуць большую ўвагу на Сямятычы.

**Аляксандр Максімюк**

## НАШЫ КАРАНІ

### LXXXVII. У змаганні за права быць праваслаўнымі

Папярэдне ішла ў нас гутарка пра паўстанне і развіццё выдатнага цэнтра праваслаўнага духовага жыцця ў Драгічыне ў IX—XVI стагоддзях. Сёння ж прыгадаем асноўныя факты з дзейнасці самага старажытнага, мабыць, на Падляшшы Свята-Праабражэнскага (Спаскага) манастыра, які існаваў ужо ў XIII стагоддзі. Перад Брэсцкай уніяй (1596) гэта быў значны комплекс. Яго складалі Спаскі храм, Свята-Ільінская царква, капліца св. Параскевы, манастырскія келлі, гаспадарчыя будынкі, сад і агарод. Спачатку ў Спаскім манастыры падвізалася невялікая грамадка браціі, але несла яна вельмі спраўна пастырскую службу ў сваёй даволі вялікай парафіі. Нягледзячы на розныя націскі і пагрозы з боку заядлага насаджальніка уніі, епіскапа уладзімірска-берасцейскага Іпація Пацея, якому падлягаў манастыр, ігумен з браціяй катэгарычна адмовіліся перайсці ва унію і разам са сваімі прыхаджанамі засталіся вернымі праваслаўю.

Пасля 1596 г. з розных манастыроў з суседніх земель і з глыбіні Беларусі пачалі сцякацца ў драгічынскі Спаскі манастыр манахі, якія за вернасць праваслаўю былі выгнаны са сваіх манастыроў, захопленых уніятамі. Гэта спрыяла развіццю духовай і грамадскай актыўнасці Спаскай абіцелі і, вядома, не магло падабацца уніятам і католікам. Яны сталі рознымі спосабамі шкодзіць праваслаўнаму манастыру, яго жыхарам, прыхаджанам. А калі ў 1625 годзе старастам у Драгічыне настаў фанатычны каталік і заядлы вораг праваслаўя Леснявольскі, пачалося жорсткае штодзённае ўшчуванне ўсяго праваслаўнага. За яго падбухторваннем і пры ўсебаковай падтрымцы уніяты захапілі праваслаўны Прачысценскі сабор, Свята-Варварынскую царкву ды рыхтаваліся захапіць усе іншыя праваслаўныя храмы ў Драгічыне. Нягледзячы на пратэсты і скаргі праваслаўных у розных уладаў, у тым і ў караля Уладзіслава IV, які спецыяльнай граматай зацвердзіў за праваслаўнымі Спаскі храм і манастыр, самаўпраўны стараста-шляхцюк Леснявольскі выгнаў з горада ўсіх праваслаўных духоўных, а цэрквы і манастыры аддаў уніятам. Праваслаўных прыхаджан, хто супраціўляўся гэтаму злачынству, ён схапіў і без якоганебудзь суда ўкінуў у турму. Заахвочаны гэтым прыкладам шляхоцкі генерал Драгічынскай зямлі, Абінскі, зацягнуў у суд усіх драгічынскіх праваслаўных мяшчан за тое, што яны заснавалі брацтва і, быццам, распаўсюджвалі „схізматыцкую" веру. Толькі пад націскам праваслаўнай шляхты Драгічынскай зямлі кароль болей катэгарычна загадаў Леснявольскаму спыніць праследаванні праваслаўных, не перашкаджаць свяшчэннікам жыць у горадзе і выконваць пастырскія паслугі, вызваліць зняволеных, вярнуць усю забраную ў праваслаўных маёмасць. Каралеўскі загад не прыйшоўся, вядома, у смак драгічынскім каталіцкім і уніяцкім фанатыкам, яны прыкладвалі ўсе намаганні, каб сабатаваць наказ караля, і надалей атакавалі праваслаўных.

Кароль Уладзіслаў IV прывілеяй ад 30 красавіка 1645 г. пацвердзіў усе папярэдне дадзеныя Спаскаму манастыру правы, праваслаўным мяшчанам дазволіў мець сваё брацтва, шпіталь і школу, прытым узяў „брацтва пад нашу каралеўскую пратэкцыю", — пісалася ў дакуменце. Але і гэты каралеўскі акт не суцішыў ворагаў праваслаўя.

Калі ўспыхнула паўстанне Хмяльніцкага, праваслаўныя не толькі Драгічына, але ўсяго Паўднёвага Падляшша, бачылі ў ім прадказанне вызвалення ад праследаванняў і вяртання забраных ім святыняў. І не дзіва, што чакалі казацкіх атрадаў як выбавіцеляў.

Як адзначае д-р А. Міранові́ч у сваім бясцэнным даследаванні „Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku", кароль „Ян Казімір, жадаючы паслабіць прыхільнасць праваслаўнай грамадскасці да Хмяльніцкага, пацвердзіў 12 студзеня 1650 г. правы і прывілеі „грэчаскіх" епархій, манастыроў, цэркваў, брацтваў і школаў. У іх ліку знаходзілася таксама Свята-Спасава царква ў Драгічыне". Аднак і гэты каралеўскі дакумент не падзейнічаў на драгічынскіх каталіцкіх і уніяцкіх фанатыкаў. Яны пачалі цягаць праваслаўных па судах за іх прыхільныя выказванні аб Хмяльніцкім і яго войску, прытым найбольш дасталася ігумену Спаскага манастыра а. Пахомію і самым актыўным дзеячам Спаскага брацтва. Як прысуд здаўся залёгкім, яны накінуліся на праваслаўных з пабоямі, апячаталі цэрквы, разрабавалі маёмасць. Найбольш агрэсіўна ставіліся да праваслаўных езуіты, якіх сцягнула ў Драгічын у 1654 г. каталіцкая іерархія дзеля барацьбы супраць праваслаўя. Тады для нашых продкаў насталі чорныя дні. Іхні лёс спрабавалі палагодзіць каралі, забараняючы праследаванні, пацвярджаючы ранейшыя і надаючы новыя прывілеі Спаскаму манастыру. Мабыць, гэтыя „дакументы" выдаваліся некаторымі каралямі толькі для выгляду, наадчэпнае, бо мясцовыя уніяцкія і каталіцкія фанатыкі не звярталі на іх ніякай увагі. Урэшце вядомы вораг праваслаўя, кароль Ян Сабескі, у 1681 г. спецыяльным загадам адкрыта забараніў праваслаўным дамагацца звароту раней забраных у іх цэркваў, манастыроў, маёмасці, публічна служыць малебны, хадзіць з хрэсным ходам, праводзіць праз горад нябожчыкаў — а ўсё тое дзеля таго, быццам бы, каб не правакаваць уніятаў і католікаў. Праўда, гэтую забарону фармальна знялі наступныя каралі, але мясцовыя фанатыкі гэтага не прымалі да ведама і праследавалі праваслаўных як і дзе толькі маглі. У Драгічыне „уславіліся" сваім фанатызмам выкладчыкі і студэнты мясцовай езуіцкай калегіі. Іхнія здзекі і злачынствы над праваслаўнымі выклікалі нават абурэнне самога караля Зыгмунта III, які зрабіў вымову рэктару семінарыі.

Нават у такіх неверагодна цяжкіх абставінах брація Спаскага манастыра патрапіла знайсці ў сабе сілу, каб весці брацкую школу, якая сваім узроўнем перавысіла ўсе іншыя ў горадзе і наваколлі. Яе нават наведвалі, наперакор забароне каталіцкага і уніяцкага духавенства, дзеці іхніх парафіянаў. Таксама добрай славай карыстаўся манастырскі шпіталь. І чым зласлівейшымі былі праследаванні, тым цясней гуртаваліся праваслаўныя пры Свята-Праабражэнскім храме і манастыры ў сваім брацтве, ахвяроўвалі грошы, дамы, пляцы, поле, лес на ўтрыманне храма, манастыра, школы, шпіталя. І хоць было іх усё меней і меней, але ў згоднай брацкай сям'і пражыло ў праваслаўі дзесяць пакаленняў драгічынцаў. І яны ніколі не падалі духам, шчыра верылі Хрыстовым словам: „Не бойся, малое стада, бо Айцец ваш упадабаў даць вам Царства" (Лк. 12, 32).

**Мікола Гайдук**

## Залешаны і Кельцы

4 ліпеня г.г. міне 50 гадоў з таго часу, калі ў Кельцах жыхары гэтага горада забілі сорак двух яўрэяў, якім удалося перажыць кашмар гітлераўскай акупацыі. Сёння часта можна прачытаць, што кялецкі пагром быў інспіраваны камуністычнымі службамі бяспекі, але як было ў сапраўднасці праўдападобна ніколі не даведаемся. Калі б не было антысеміцкіх настрояў, ніякая правакацыя не прывяла б натоўпу да такога зверства. Чытаючы справаздачы беластоцкага ваяводы пра стан бяспекі ў ваяводстве ў 1945-1948 гадах відаць, што асобы яўрэйскага паходжання не мелі вялікіх шанцаў перетрываць гэты перыяд, пражываючы ў ваколіцы Ломжы, Замбрава, Монькаў, Бранска, Лап. Большасць яўрэяў, якія ў 1941 г. уцяклі перад гітлераўцамі на Усход, пасля вызвалення Беласточчыны вярталіся ў свае гарады, дамы. Іх суродзічы, якія тут асталіся, загінулі ў канцлагерах, масавых расстрэлах, памерлі ў гета ад голаду, холаду і хваробаў. Яўрэяў, якія вярталіся з Усходу, польскае нацыяналістычнае падполле ўспрымала як агентаў Сталіна. Падобна, як у выпадку беларусаў, вінаватымі ў вачах нацыяналістаў лічыліся ўсе тыя, што служылі ў бяспецы, як і дзеці, жанчыны, старэчы. Яўрэі не жылі ў вёсках, так як беларусы, таму гінулі ў сваіх кватэрах, на вуліцах гарадоў, у якіх прыйшлося ім жыць. Апрача кялецкага пагрому такіх масавых пацыфікацый, як у Залешанах ці Занях, у выпадку яўрэяў не было.

Злачынства, якое ў 1946 г. было ўчыненае на яўрэях, дачакалася ўжо маральнага асуджэння. Прэзідэнт Рэчы Паспалітай Аляксандр Квасьнеўскі ад імя польскага народа звярнуўся да яўрэйскай супольнасці са словамі прабачэння за пагром, падчас якога патраціла жыццё 42 невінаватых людзей. Праўдападобна ў ліпені такіх жэстаў будзе больш.

На Беласточчыне ў 1944-1948 гадах у выніку пацыфікацый вёсак, тэрарыстычнай дзейнасці ўсялякіх падпольных бандаў, забойстваў з-за вугла загінула пару соцень беларусаў, якія не былі салдатамі, міліцыянерамі, членамі партыі. Забойцам, калі нават іх судзілі, не ставілі закідаў у злачынстве над мірным беларускім насельніцтвам. Пяцідзесятая гадавіна пацыфікацый беларускіх вёсак на Беласточчыне была адзначаная толькі ў беластоцкіх беларускіх сродках масавай інфармацыі. Ніводная польская газета, ні радыё- ці тэлеперадача не ўспомнілі нават пра гэтую трагічную гадавіну. Злачынцам паставілі помнікі, іх імёнамі назвалі вуліцы гарадоў, не выпадае тады пісаць пра лёс жыхароў Залешанаў, Заняў, Вулькі-Выганоўскай, Малешаў, Канцавізны, Патокі. Што ж, беларусы гэта не яўрэі, а ў свеце шануюць толькі тыя народы, якія самі сябе шануюць.

рэд.

## Не ўспамінайце майго прозвішча

Гартаючы першыя нумары „Ніва" з 1956 года, кідаецца ў вочы вялікая колькасць тэкстаў падпісаных нейкімі ініцыяламі, псеўданімамі, або і ўвогуле непадпісаных. Прынцыпова ананімнымі былі артыкулы, якія закраналі складаныя беларуска-польскія адносіны ў навейшай гісторыі абодвух народаў. Пра ананімнасць не вырашала ні цэнзура, ні рэдакцыя, але самі аўтары. Цэнзура, калі пускала нешта ў друк, не бачыла ў такой публікацыі пагрозы для кіруючай ролі партыі ці інтарэсаў сацыялістычнай польскай дзяржавы. Рэдакцыя магла не друкаваць тэкстаў з увагі на іх графаманскі характар. Адкрытым тады астаецца пытанне, чаму ў 1956 і наступных гадах беларусы не хацелі, каб іх імёны і прозвішчы друкаваліся ў „Ніве". Напэўна не з увагі на скромнасць як неадлучную прыкмету нацыянальнага характару беларусаў. Можна зразумець тых, якія ў сямідзесятыя гады не хацелі, каб іх асоба была недзе прылічана да беларускай нацыянальнасці. У час пабудовы „палітычнай і маральнай еднасці польскага грамадства" мог бы нехта зрабіць закід „нашаму чалавеку", што ён беларус, а тады ў вачах улад не лічылася гэта ні маральным, ні палітычна слушным.

У васьмідзесятыя гады, падчас ваеннага становішча, у канспірацыйных умовах паспяхова пачала развівацца беларуская выдавецкая дзейнасць. Амаль непісьменная да гэтай пары інтэлігенцыя пачынала пісаць пра душу свайго народа, пра яго гісторыю. Найцікавейшым было тое, што неўзабаве паказалася палітычная публіцыстыка, якой перадрук ахвотна рабілі палякі і на дадатак пісалі палемічныя тэксты. Смелыя аналізы палітычнай сітуацыі беларусаў у XX стагоддзі, разважанні пра нацыянальны характар беларусаў і іх суседзяў, якія друкаваліся ў „Беларускіх Дакументах" і „Кантакце", паказваліся найчасцей ананімна. А можа тады, калі ананімнасць была цалкам апраўданай, былі адпаведныя ўмовы для нашай інтэлектуальнай творчасці.

Але вернемся да сучаснасці. Нядаўна пісалі мы пра тэлефоны і лісты ў рэдакцыю ад жыхароў Беласточчыны, якія пыталіся, чаму праваслаўныя святы не з'яўляюцца ў нас днямі свабоднымі ад працы. Добрыя людзі раілі нам: вы напішыце так і так... Але калі мы пыталі, ці пад гэтым выказваннем можам змясціць прозвішча нашага суразмоўцы, усе яны рашуча адмаўляліся. Жывем сярод палякаў, — гаварылі, — а вы ведаеце, як яны да нас ставяцца.

Страх адчуваецца ў кожнай карэспандэнцыі, прадстаўляючай дзейнасць пасляваеннага падполля на Беласточчыне. Шмат тут ананімных дописаў, у якіх расказваецца праўдзівыя факты і жахлівыя падзеі, якія здараліся 50 гадоў таму. Ніхто аднак не хоча публікаваць сваіх успамінаў ці рэфлексій пад сваім іменем і прозвішчам.

3 лютага г.г. у беларускай тэлеперадачы сем'і памардаваных у Пухалах-Старых вазакоў гаварылі пра трагедыю сваіх блізкіх, стоячы плячыма да камеры. Сумна, калі ў дэмакратычнай і хрысціянскай краіне, 50 гадоў пасля злачынства дзеці ахвяр ад страху хаваюць свой твар, а не нашчадкі злачынцаў ад сораму. Можа і няма чаму здзіўляцца, што найчасцей спатыканай рэакцыяй беларусаў пасля вайны былі ўцёкі ў польскасць. Дзеці тых, што палякамі сталі ў шасцідзесятыя ці сямідзесятыя гады, сёння ўжо толькі здзіўляюцца, што на Беласточчыне ёсць нейкія беларусы. Санацыйныя палітыкі і ўраднікі маглі толькі марыць пра такія дасягненні.

**Яўген Мірановіч**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

*БАРЫС РУСКО*

### Іосіфу Бродскаму

Ты добра ведаеш,
што не памёр Ты.
Нараспеў чытаеш вершы
за маім сталом.
У вянку лаўровым словы,
як матылі вечныя
зіхотка квітнеюць
на глебе ўрадлівай.
Слухаю —
я ў свеце іншым,
нагэтулькі яркім,
нагэтулькі бачным,
што зямлю,
што людзей
адкрываю нанова.
За цемру
гавораць больш зоркі
на ўзбураным небе
Твайго жыцця.
Абапал
святла і часу
стаяў
і стаіш
Ты.

# Светлай памяці Марылі

30 студзеня 1996 г. на праваслаўных могілках у Бельску-Падляшскім адбылося пахаванне заўчасна памерлай пасля цяжкай і працяглай хваробы настаўніцы беларускай мовы ў Пачатковай школе н-р 3 Марылі Базылюк-Саснюк. У апошнім развітанні з пакойнай побач сям'і ўдзельнічалі многія настаўнікі, вучні, іх бацькі, выхаванцы, прадстаўнікі гарадскіх улад, сябры — былыя басаўцы, пісьменнікі з Літаб'яднання „Белавежа", людзі шчырага сэрца, якія да моманту смерці Марылі дапамагалі ёй змагацца за здароўе. Ад царквы св. Міхала да месца апошняга спачыну суправаджала нябожчыцу шматлюднае пахавальнае шэсце.

Пачатковая школа н-р 3 страціла таленавітую і сумленную настаўніцу, чалавека высокай прынцыповасці. Зычлівасць, скромнасць, бескарыслівасць, справядлівасць, адкрытасць, цярплівасць, амбіцыя і творчае захапленне ўвесь час прысутны былі ў яе педагагічнай працы. Умела прыглядзецца кожнай справе, прыслухацца да праблемаў, сагрэць добрым словам парадай, дапамагчы. Шчыра гарнуліся да яе вучні, карысталася пашанай у сяброў-настаўнікаў і ў бацькоўскім асяроддзі. Голас яе на форуме школьнай Педагагічнай рады з сямідзесяці настаўнікаў заўжды ўспрымаўся як голас разумны, прадуманы, узважаны, душэўны. Вялікая сіла прыцягнення была ў яе мове — культурнай, прыгожай, сакавітай, жывой.

Яе вучні заваёўвалі лепшыя месцы ў дэкламатарскіх конкурсах беларускай паэзіі і прозы. Многа ўвагі прыдавала прабуджэнню талентаў, эстэтычных густаў. За ўсё гэтае сустракала яе пашана ў дырэкцыі школы, шчырае прызнанне здзейсненага ёю.

Самай адметнай рысай характару пакойнай, на маю думку, была дабрыня. Марыля была з усімі роўная — і са старымі, і з маладымі. Умела гутарыць з кожным чалавекам — з прафесарам універсітэта, з простай вясковай бабуляй, з незнаёмым суразмоўцам, бо бачыла ў кожным перш-наперш чалавечую душу. Ніколі не гаварыла пра ворагаў (мабыць, іх і не мела). Словам яднала акружаючых яе людзей, уздзейнічаючы на іх святлом і незвычайнай сардэчнасцю.

Была гэта інтэлігентная, высакародная, мірная, прамалінейная, тактоўная, дружная і непаўторная асоба. Мела гарманічна сфарміраваную індывідуальнасць, за якой стаяла чалавечнасць ды поўная адданасць справам першаступеннай важнасці.

У сэрцы Марыля насіла кавалак малой Айчыны, якой чула Божае тхненне. Была заваражана багаццем і хараством роднага краю, яго гісторыяй, адвечнымі традыцыямі і абрадамі. Хораша і вольна пачувалася ў стыхіі беларускіх спраў. Дзяцей і моладзь вучыла трапяткой і шчырай любові да беларушчыны і праваслаўя, імкнулася прышчапіць ім трывалае пачуццё нацыянальнай годнасці, цвёрдай веры ў перамогу дабра і праўды. Калі кіравала школьным этнаграфічным гуртком, з вучнямі зведала многія куткі Бельшчыны ды ўсяе Беласточчыны, збірала з імі фальклор і экспанаты ў кабінет беларускай мовы. Як мала хто разумела таксама наш малаайчынны смутак. Аднак энтузіязм і глыбокая пашана да багатай скарбніцы свайго народа памагалі ёй здзяйсняць высакародную жыццёвую ідэю.

Марыля жыла актыўна — у васьмідзесятыя гады займалася культурна-асветніцкай працай у асяроддзі беларускай, пераважна студэнцкай, моладзі, пісала поўныя лірызму вершы. Мела схільнасці да аналізу жыцця, пошукаў яго гуманістычных вартасцей, пошукаў ісціны ў складанай і супярэчлівай нашай рэчаіснасці. Імкнулася да вышынь чалавечага духу, да вышэйшых праяў характара. Была чалавекам вялікай унутранай сілы, мела шматлікія планы, намеры, справы.

Два апошнія гады Марыля гераічна трывала ў цяні смерці. Была ў яе магутная прага жыць — дзеля чацвярых дзетак. Яна ж ратавалася для іх, хворая, не губляла духу. Вытрымала цяжкую працяглую аперацыю ў Гематалагічнай клініцы ў Катавіцах, вытрымала, здаецца, невыносны боль ад пасляаперацыйных ускладненняў, сотняў уколаў. Чакала яе свабоднае месца сярод нас, сяброў-настаўнікаў, вучняў, побач школьнай парты, над кнігамі, сшыткамі, дзённікамі. Веяла аптымізмам...

Раптам у нашу штодзённшчыну ўварвалася сумная, усімі нежаданая вестка — не стала чалавека, які даў шмат святла, цяпла, дабрыні. Матчынага святла, цяпла і дабрыні ніхто аднак ужо не дасць для Марыліных дзяцей. Маленства, дзяцінства і юнацтва без любімай матулі — жахлівая ўжо рэальнасць.

Жыццёвая хвіліна Марылі Базылюк-Саснюк прамінула. Яе светлы вобраз назаўсёды застанецца ў памяці тых, хто жыў і працаваў разам з ёю, хто яе ведаў.

**Юры Баена**

# 155 гадавіна з дня нараджэння Элізы Ажэшка

Польская пісьменніца Эліза Ажэшка (1841—1910) сваё працавітае жыццё ў асноўным правяла на Гродзеншчыне. Ёй добра вядомы беларускія вёскі Мяневічы, Паніжаны ды многія іншыя прынёманскія сёлы. Але кантакты з беларускім асяроддзем распачаліся ў раннім дзяцінстве, а пазней знайшлі шматлікія адлюстраванні ў багатай творчасці. Няма іншага пісьменніка, які б з такім зацікаўленнем адносіўся да беларускага люду, які б прысвяціў яму столькі твораў.

Пісьменніца напісала звыш двухсот раманаў, аповесцей, навел і іншых твораў. Падзеі ў іх разыгрываюцца пераважна на роднай для яе Гродзеншчыне, а героямі з'яўляюцца беларусы розных саслоўяў, вельмі часта гарадская бедната і беларускія сяляне. Прыгадаем некаторыя творы: аповесці — „Над Нёманам", „Нізіны", „Дзюрдзі", „Хам", „Відма", „Сыльвек Цментарнік"; навелы — „У зімовы вечар", „Шэрая доля", „Юльянка", „Неружовая ідылія"; расказы — „Добрая пані", "Ганна Антаніна", „Тадэвуш", „Рэха", „Абразок з галодных гадоў", „А...Б...Ц..." і іншыя.

Для мастацкага адлюстравання псіхічнай глыбіні сваіх гераічных персанажаў Ажэшка часта выкарыстоўвала бяздоннае багацце народнай творчасці. Для прыкладу, у навеле „У зімовы вечар" народны фальклор цесна пераплятаецца з аўтарскім расказам і складае дадатковы паясняльны каментарый, арыентуючы чытача ў гушчары псіхалагічных перажыванняў героя гэтага твора. Асабліва датычыць гэта старога Мікулы і яго сына Ясюка.

Яшчэ больш значную ролю беларускаму фальклору адводзіць Эліза Ажэшка ў аповесці пра беларускіх сялян з вёскі Сухая Даліна. І вёска, і яе жыхары — героі кніжкі — сям'я Дзюрдзяў, аўтэнтычныя. Сустракаемыя ў гэтым творы народныя песні і расказы з'яўляюцца адначасова рашаючымі драматычнымі вузламі ў лёсе беднай кавалёвай жонкі. Яны паясняюць і каменціруюць усё, што дзеецца ў аповесці, указваюць сувязь адзінкі з акружаючым асяроддзем.

Эліза Ажэшка не першая сягнула да беларускага фальклору, але яна першая выкарыстала яго так творча і шматбакова. Народная творчасць з'яўляецца неад'емнай часткай яе шматлікіх твораў пра беларусаў.

Э. Ажэшка станоўча адносілася да беларускага культурнага і нацыянальнага адраджэння.

**(яц)**

# Шляхам аднаго злачынства

*Працяг са стар. 1*

хлопца. Дзяўчаты пачалі штодзённа сустракацца. Іхнія размовы віравалі вакол дыскатэк, хлопцаў, успамінаў, забавы.

Аднаго вечара Лілька К. сказала сяброўцы пра сваю цяжарнасць. Сільвія С. не палічыла гэтай весткі нечым надзвычайным. Адразу паявіліся гутаркі пра хатнія спосабы аборту. Сільвія С. не хвалявалася праблемамі сяброўкі, бо, як сказала, „не было ж відаць цяжарнасці".

Жарты скончыліся ў дзень родаў. Перапалоханая Лілька К. адправілася ў паліклініку. Пасля гадзіны нарадзіўся хлопчык. Дзіця, — сцвердзілі лекары, — нарадзілася месяц да тэрміну.

Лілька К. званіла знаёмым. Адчайна прасіла дапамогі. Да канца цяжарнасці разлічвала, што дзіця народзіцца мёртвае.

— Што цяпер мне рабіць? — раілася Сільвіі С., нервова курачы цыгарэты „Albatros".

Аднойчы наведаў яе Яраслаў Л. Адгукнуўся ён на распачлівы тэлефон парадзіхі. З яе слоў вынікала, што гэта ён бацька дзіцяці.

— Ведаеш... у мяне свая сям'я, дзіця, — лаяўся знерваваны Яраслаў Л.

Развіталіся без слова надзеі. Яраслаў Л. паабяцаў толькі данесці вопратку дзіцяці. Выручыла яго азнаёмленая з тайнамі швагра братавая. Якраз яна найбольш перанялася безнадзейным становішчам Лількі К.

— А што ты зробіш? — папыталася маладой маці, развітваючыся.

— Пакуль што пабуду ў Сільвіі С., а пазней да бацькоў паеду, — запэўніла яе Лілька К.

Пазней, калі знайшлі дзіцянё Лількі К. і трубілі пра гэта ў прэсе, жанчына адразу пра яе падумала.

— Якія ў цябе планы? — пацікавілася Сільвія С., калі прыйшла выпісаць сяброўку.

— Чаму гэтае дзіця нарадзілася жывое? — наракала ў адказ маладая маці.

За два тыдні пасля родаў не прыдумала нават імя дзіцяці.

— У горадзе не кіну, бо нехта мяне заўважыць, задушыць не задушу, завезці ў хату таксама не магу, бо пагоняць мяне разам з дзіцём, — разважала Лілька ў дарозе на стаянку таксі.

Збітая з панталыку Сільвія С. маўчала. І яна не бачыла іншага выхаду.

— Калі б не жыла з бацькамі, — успомніла дзяўчына, — можна было б паехаць і да мяне.

Таксі спынілася ў падбеластоцкіх Засценках. У руках дзяўчат тырчэлі пластмасавыя пакеты („рэкламоўкі"). У адной з іх спала немаўля.

Апынуўшыся ў лесе, Лілька К. накарміла грудзьмі дзіцятка. Пакінула яго побач гарадскога сметніка. Пазней гаварыла, што мела надзею, што нехта дзіцянё знойдзе. І так было. Якраз праз дзесяць хвілін на пакет наткнуўся выпадковы грыбнік. Дзіця адратавалі. Тым часам Сільвія С. і Лілька К. вярнуліся ў Беласток. Лілька К. рашыла адвесці душу.

— Давай скочым на забаву, даўно нас там не было, прапанавала сяброўцы.

— Mnie to trochę sumienie gryzło, — прызналася Сільвія С. — Ale Lilka bawiła się jak zwykle, — успамінала прыгавораная за дапамогу ў злачынстве сяброўка.

У родную вёску Лілька К. вярнулася пасля забавы. Пра злачынства дачкі даведаліся бацькі пасля некалькіх дзён. У хату завітала акушэрка.

— Ніякага дзіцяці тут не было, — бойка адправіла яе Лілька К.

— Калі так, то я яшчэ раз прыеду, з паліцыяй, — заявіла акушэрка.

Пасля гэтага візіту бацькі пачулі жахлівую гісторыю свайго дзіцяці.

— Маці хацела павесіцца, а я памерці, — успамінаў Мікола К., Лільчын бацька.

— У нас і так гора замнога, і цяпер яшчэ дачка... — распачаў ён.

Лілька К. ніколі не паверыла ў сваё мацярынства.

— Няма ў мяне ўмоў для выхавання дзіцяці, — адказвала яна, калі запыталі ў яе, ці цяпер хацела б заняцца немаўлём.

Злачынства прыдумала два дні перад выхадам са шпіталя. Пра магчымасць усынаўлення або дзіцячы дом не чула. На жаль, не спяваецца пра гэта ў песнях на падбеластоцкіх забавах.

**Ева Сцепанюк**

P.S. Імёны герояў зменены.

# Прэс-канферэнцыя ў БГКТ

У пятніцу 8 лютага 1996 г. у сядзібе БГКТ у Беластоку адбылася прэс-канферэнцыя, скліканая Галоўным праўленнем гэтай арганізацыі.

Прэс-канферэнцыя была арганізавана для польскамоўных журналістаў з нагоды юбілею 40-годдзя БГКТ. Таму не буду пісаць пра тое, што чытачам „Нівы" добра вядома. Спынюся толькі на некалькіх цікавых выказваннях лідэраў БГКТ.

Паколькі прэса любіць справы незвычайныя, няўмольна выплывае справа канфлікту паміж беларускімі арганізацыямі. Старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі панаракаў на атакі з боку новых арганізацый, „абкіданне", „стваранне фактаў" і „злую волю" рэдактараў. Тым не менш, на настойлівыя намаганні журналіста „Gazety Wyborczej" М. Халадоўскага, які вельмі хацеў пачуць, што існуе канфлікт, Я. Сычэўскі адказаў, што няма канфлікту, хаця асяроддзе пасваранае. Па-польску гучала гэта нават мякчэй: *poróżnione*.

Запытаны, чаму БГКТ не ўзяло голасу ў справе рэферэндуму аб дзяржаўнай мове і сімволіцы Рэспублікі Беларусь, Я. Сычэўскі заявіў, што БГКТ не бярэ голасу ў справах палітычных. Згаданая справа вельмі далікатная. Крытыка нацыі гэта недаразуменне. Трэба шукаць вытокаў цяперашняга становішча. Стан свядомасці беларусаў — гэта раўнадзейная таго, што рабіла з імі Польшча і Расія, і таго, што па сённяшні дзень з імі рабілася.

На пытанне, чаму ўсё-такі ў сядзібе БГКТ вісіць Пагоня, Я. Сычэўскі адказаў, што гэты герб захоўвае сваю культурна-нацыянальную каштоўнасць.

Разышліся пазіцыі дзеячаў БГКТ наконт асіміляцыі беларусаў у Польшчы. Уладзімір Ювзюк лічыць, што С. Яновіч і Л.Тарасэвіч у надаўняй тэлеперадачы перабольшылі праблему. Не пагадзіўся з ім Я. Сычэўскі, які падкрэсліў, што галоўнай прычынай таго, што маладыя людзі хаваюць сваю нацыянальнасць з'яўляецца неталерантнасць з боку польскай большасці.

Вельмі цікавы быў адказ Я. Сычэўскага на пытанне, чаго БГКТ чакае ад новага прэм'ер-міністра В. Цімашэвіча. Старшыня сцвердзіў, што не надта на штось спадзяецца, бо раней выразных форм дапамогі з боку В. Цімашэвіча, нягледзячы на яго дэкларацыі, не было. Выняткам была толькі ініцыятыва правядзення нарадаў з Ваяводскай управай у справе нацыяналізацыі Беларускага музея ў Гайнаўцы. Не было дапамогі ў іншых справах, з якімі звярталася да В. Цімашэвіча БГКТ. Тым часам хаця б медыяцыя ў справе арэнднай платы за сядзібу БГКТ з Гарадской управай Беластока была б сур'ёзнай дапамогай.

Старшыня падкрэсліў, што БГКТ чакае толькі, каб на ўзроўні дзяржавы і самаўрада як БГКТ, так і беларуская меншасць былі трактаваны дэмакратычна.

**Алег Латышонак**

## Малы беларус

Сынок мой маленькі
Ты спіш так моцна,
Усміхаешся салодка,
Не ведаеш ніякай бяды.
На свеце войны,
Ашуканствы, забойствы, пажары.
Мама, тата, калыска, соска —
Твой малы свет.
Кветачка ты наша,
Наш малы беларус.
Дай Божа — не будзь пустазеллем.

**Аўрора**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Эвеліна Кучэльская.

# Гаварыць на роднай мове

*Мы трацім словы, нямеем —*
*і хвалімся што не ўмеем,*
*гаварыць на роднай мове,*

— дэкламавала верш Віктара Шведа Паўліна Сачко з гайнаўскай „шасцёркі". Патрыятычная тэматыка была вядучай на сёлетнім Цэнтральным дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова". Адбыўся ён 30 студзеня ў Нарве. У мерапрыемстве прыняло ўдзел каля шасцідзесяці дэкламатараў з Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Найбольш, бо аж 18 асоб прыехала з бельскай „тройкі".


Публіка па-рознаму ўспрымала выступленні сваіх сяброў.

Як сцвердзілі пастаянныя паклоннікі „Роднага слова", сёлетні конкурс вылучаўся высокім узроўнем. Дзеткі, хаця і аматары, сваімі выступленнямі нярэдка хвалявалі і кранаді душу, даводзілі да слёз. Мне найбольш спадабалася выступленне **Эвеліны Кучэльскай** з Нарвы. Таленавітая Эвеліна выступіла з творам Ларысы Геніюш „Урывак з незакончанай паэмы". Рыхтавала яе да конкурсу настаўніца **Ніна Абрамюк**. Эвеліна была таксама ўзнагароджана журы спецыяльным прызам у катэгорыі старэйшых выканаўцаў. Індывідуальнасцю мерапрыемства была бясспрэчна наша карэспандэнтка **Жанэта Роля** з бельскай „тройкі". Рыхтавала яе настаўніца **Валянціна Бабулевіч.** Пра паэтычны талент Жанэты нашыя чытачы мелі ўжо нагоду пераканацца. Жанэта таксама цудоўна дэкламуе. У яе арыгінальная інтэрпрэтацыя тэксту, уражлівы інтэлігентны голас. Жанэта атрымала таксама спецыяльны прыз журы. Выступіла яна з творам Уладзіміра Караткевіча „Багдановічу".


Дэкламатары добра гулялі.

Узнагароду „Зоркі" атрымаў **Пятрусь Семянюк** з Курашава. Выступленне Петруся лічу цікавым перш за ўсё таму, што хлопчык як ніхто перажываў радкі падабранага твора. Выступіў ён з вершам В. Шведа „Родная мова". Рыхтавала яго настаўніца **Людміла Дзмітрук.** Пятрусь як адзін з нямногіх удзельнікаў вельмі хваляваўся, але дэкламаваў ад душы, як ніхто, прыгожа. Прыемна мне таксама адзначыць, што хлопчык карыстаецца беларускай мовай не толькі ў час дэкламатарскага конкурсу, але натуральна размаўляе на ёй з аднагодкамі, бацькамі.

Пра ўсіх удзельнікаў можна было б пісаць бясконца.

— Усе дзеці, якія выступілі ў Цэнтральным конкурсе „Роднае слова", прынеслі сваёй школе славу, — адзначылі многія паклоннікі мерапрыемства.

Я таксама такой жа думкі. Шкада мне толькі, што зоркі дэкламатарскай сцэны гаснуць у нас пасля заканчэння пачатковай школы. Тады найбольш шкада „змарнаванай" працы і энтузіязму.

* * *

Гаспадары мерапрыемства — Пачатковая школа ў Нарве (дырэктар **Аліна Асташэўская**) — гасцінна сустрэлі юных дэкламатараў. Прадпрымальная сп. Ніна Абрамюк, настаўніца беларускай мовы а зараз і метадыст навучання гэтага прадмета, падумала хіба пра ўсё. Шматгадовае ўдзельніцтва ва ўсякіх беларускіх конкурсах, мабыць, паспрыялі ўдаламу мерапрыемству. Дзеці не толькі ажывілялі роднае слова, але і знаёміліся, супольна гулялі. Спрыялі гэтаму карнавальныя танцы, супольныя пасілкаванні, сустрэча са шчодрым Дзедам Марозам. І што самае сімпатычнае — вучні нарваўскай школы „забаўлялі„ сваіх прыезджых аднагодкаў. Некаторыя нават абмяняліся адрасамі. Усе хацелі сустрэцца яшчэ раз на такім свяце.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Бітва

Гаспадарачкі ў Вайкаве, бы чародкі спалоханых шуляком курапатак, рассыпаліся па хвалістай надбужанскай выдме ўсяго ў якіх чатырох—пяці вярстах*) на ўсход ад старажытнага Мельніка. Шуснулі яны пад разгалістыя хвоі ды кучараву садавіну і затаіліся воддаль магутнага Буга, быццам баючыся ягонай напорыстай плыні. І не без падставы.

Паданне кажа, што гадоў таму назад сто ці дзвесце на Бузе ўзнялася такая паводка, што вада не змяшчалася ў логаве ракі і каламутнай навалай кацілася па ўсёй рачной даліне, рыла бязданныя провы на агародах і палях. Гэтак доўга і няўмольна здзекавалася рака, аж вайкаўцы ўжо страцілі надзею, што яны змогуць выпусціць равучую з голаду жывёлу на прыбярэжны поплаў, а самі выйсці з сошкамі ў яравы палетак. Але як урэшце Буг сунуўся, усё сяло ў адзін голас заляментавала: рака замест плысці ў вярсце, пад процілеглаю вёскаю Барсукі, пракала сабе новае логава паўз самыя вайкаўскія гароды. Па той бок шырачэзнай ды бяздоннай плыні апынуліся паплавы і сенажаці. І ад таго часу воляй-няволяй давялося штодня вайкаўскаму дабытку ўплаў пераадольваць раку. Колькі цельных каровак ды жарэбных кабылак, няўрымслівых цялятак ды шустрых жарабятак праглынула ненажэрная бужанская тонь! Але Бугу і гэтага было мала. Яго хвалі напорыста і нястрымна пачалі падмываць той стромкі пагорак, на якім гняздзіўся перапужаны смяротнай небяспекай Вайкаў. Аднак калі ў ваду пачалі валіцца клункі, свіронкі, хлеўчыкі ды хіліцца хаты, тады вясковы стараста склікаў усю вёску і сталі яны грамадой раіцца, як ратаваць ад пагібельнай ракі.

Думалі так, меркавалі сяк, але ўсё выходзіла на тое, што трэба кідаць адвеку наседжаныя сялібы ды падавацца далей ад Буга.

Ды вось устаў адзін юнак, пакланіўся грамадзе і прамовіў: „Яно-то найпрасцей, узяўшы лахі пад пахі, перанесціся куды-небудзь прэч ад ракі. Але ці падумалі вы, як будзем жыць на новым месцы? Сенажаткі і пашу нам вада адрэзала, гароды размыла — ні жывёліне, ні чалавеку няма чым пракарміцца. Ды і ад ракі ўцякаць нам нягожа: плыты*) на ёй вунь ад самага Бярэсця ды ў Гданьск спускаем, стругі*) з розным таварам ганяем — тым у жыцці і падпіраемся. Значыць, некуды нам ад Буга дзявацца".

Грамада слухала юнака, слухала ды і загаманіла: „Усё тое праўда, што ты кажаш. Ды не чакаць жа, пакуль рака нас жыўцом праглыне..." А хлопец на тое: „Наступае на нас Буг — давайце будзем бараніцца". „Як?" — накінуліся на яго з недаверам людзі.

Доўга дзяліўся юнак з аднавяскоўцамі сваімі думкамі, як адбівацца ад настырнай ракі. Адны яго і слухаць не хацелі, другія ўсяму пярэчылі, але трэція ўзялі словы хлапца пад развагу і сталі пераконваць іншых. Гаманілі-гаманілі, спрачаліся-спрачаліся ды ўсё ж прыйшлі да агульнай згоды.

Назаўтра ўсёй грамадой упоперак рачнога ложа пачалі сыпаць доўгую сажняў*) на пяцьдзесят „галоўку". Але Буг не паддаваўся: пасля кожнай паводкі мала што заставалася ад чалавечых намаганняў паўстрымаць яго напор. Вайкаўцы ж таксама не адступалі. Яны і старыя, і малыя вызбіралі з навакольных палёў усе да апошняга каменьчыка, сцягалі валуны з адлеглых мясцовасцей і галоўка-запора ўсё таўсцела і разрасталася. У рэшце рэшт Буг усё ж адступіў, падчас адной з паводак праклаў сабе новае логава крыху воддаль сяла. Але Вайкаў таксама зрокся са сваёй сялібы — адышоў далей ад бужанскай даліны. На „нічыйнай зямлі", нейтральнай зоне колішняй бітвы, рака пакінула глыбокія старыя рэчышчы-„бужыскі", а сяло — разгалістыя грушы-дзічкі.

Вайкаўцы ўсё ж сцвярджаюць, што грозная рака не даравала ні юнаку, што наважыўся выступіць супраць яе, ні вёсцы, якая прымусіла паступіцца



Талон "Зоркі" н-р 8
25.02.1996

## Крыжаванка н-р 8

Гэтую крыжаванку прыдумала **Кася Леанюк**, вучаніца V класа ПШ н-р 6 у Гайнаўцы. Кася вельмі любіць рашаць розныя крыжаванкі і рэбусы. „Зорцы" вельмі прыемна, што Кася складае крыжаванкі таксама і на беларускай мове. Чакаем наступных карэспандэнцый.

**Задача:** Адгадайце ўсе словы, запішыце іх у клеткі і тады атрымаеце лозунг. Дашліце яго ў рэдакцыю разам з кантрольным талонам. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

1. тата маёй мамы,
2. поле і газета,
3. аўстралійскі страус,
4. шчыпае зімой,
5. летні месяц,
6. звер з доўгай шыяй,
7. я, сястра, мама, тата,
8. у ім многа зярнятак,
9. невялікі лес
10. хата шышкі,
11. рыжая хітруха,
12. Сан або Буг,
13. сярод агародніны,
14. растуць на дубе,
15. напрыклад, лінь.

Узнагароды (якія разыгралі дзеці са школы н-р 5 у Беластоку) — пісьмовыя наборы (papeterie) — атрымаюць:

1. **Пятрусь Іванюк** з Лапухоўкі,
2. **Кася Ламашкевіч** з Нараўкі,
3. **Данель Паўлючук** з Бельска-Падляшскага,
4. **Крыстафор Яканюк** з Беластока,
5. **Аня Кіцаль** з Трывежы,
6. **Бася Леўчук** з Крывой,
7. **Эля Іванюк** з Паўлаў,
8. **Іаанна Гацута** са Старога Беразова,
9. **Аня Садоўская** з Макаўкі,
10. **Янка Каліноўскі** з Нарвы.

Віншуем!

## Забабоны Дубіцкай гміны

*(працяг; пачатак у папярэднім нумары)*

### Павер'і звязаныя з хрысціянскімі святамі

1. Калі ў ноч перад Новым годам неба было зорнае, гэта прадказвала багаты ўраджай.
2. Калі на Вадохрышча снег — вырасце многа бульбы.
3. На Вадохрышча холадна і завіруха, такі ж будзе Вялікдзень.
4. Засмальвалі валасы на Грамніцы, каб дзіця не баялася грому.
5. Як на Грамніцы адліга — слабы будзе ўраджай.
6. Калі на Грамніцы певень нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я карова наесца травіцы.
7. Хто ўбачыць бусла, увесь час будзе лётаць.
8. На Благавешчанне бусел гнязда не ўе.
9. Бульбу трэба пасадзіць да Міколы (у маі).
10. На Юр'я качаліся па ніве, каб зямля радзіла і каб быць здаровым.
11. Да Спаса жанчыне, у якой памерла дзіця, нельга есці яблык і груш.
12. Калі на Міхайла ясная ноч, то будзе марозная і доўгая зіма.
13. Калі на Новы год многа зорак на небе, то ў наступным годзе будуць добра несціся куры.
14. Калі на Новы год туман, то каровы летам будуць даваць многа малака.
15. Ноччу перад Васіліем адпраўляліся ў царкву і трэслі дрэвы, каб многа было яблык і груш.

*(працяг будзе)*

## Пішуць школьнікі

Добры дзень, Зорка!

Пішуць табе вучні трэцяга класа Пачатковай школы ў Старым Корніне. У нашым класе вучыцца 5 асоб. Школа знаходзіцца побач царквы. Навокал школы растуць дрэвы. Школа размаляваная на зялёны колер. У ёй знаходзіцца чатыры залы і канцылярыя. Да яе ходзяць вучні з Ягаднік, Карыцкі і Старога Корніна. Нас, вучняў, 54 асобы. Мы ад другога класа вывучаем беларускую мову. Вучыць яе Васіль Сегень. Мы часта на ўроках чытаем „Ніву" і „Зорку", рашаем крыжаванкі.

Да пабачэння, дарагая „Зорка"!

**Вучні III класа Пачатковай школы ў Старым Корніне**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, сябры! Дзякую за прыгожы ліст. Думаю, што не адзін васьмі-класнік пазайздросціць вам адвагі ў карыстанні літаратурнай мовай.

**З-ка**

*Эля Шварц, Ганна Сурэль і Агнешка Галімская — дэкламаторкі са Старога Корніна.*
**Фота Ганны Кандрацюк**

ёй сваёй магутнасцю. Адступіўшы ад вёскі, Буг усё ж пакарэжыў па палове вайкаўскія паплавы і сенажаткі так, што сялянам і да сённяшняга дня даводзіцца перапраўляць жывёлу ўплаў або ў лодках, калі вада высокая, а самім увесь час карыстацца паромам або дубіцай*). Найцяжэй бывае тады, калі паводка веснавая, летняя ці восеньская залівае даліну, а таксама на зазімку ці на прадвесні або ў цёплую зіму, як на рацэ няма моцнага ледзянога покрыва.

Здарылася ж так, што ў мясніцы*) той, што падаў думку адпіхнуць Буг ад вёскі, ужо стаўшы пажылым мужчынам, аднойчы з усёй сваёй сям'ёй вяртаўся з вёскі на супрацьлеглым беразе ад родзічаў з вяселля. Відаць, яны добра не разабраліся, што рушыў крыгаход, і на вутлым чаўне трапілі паміж налятаючыя таўшчэзныя ільдзіны. Сціснутая імі лодка луснула, быццам арэхава шкарлупінка, і ўсю сям'ю праглынула рака. Іхнія астанкі людзі знайшлі толькі позняй вясною: Буг выкінуў іх на перакат*) аж пад Драгічынам, за семдзесят вёрст ад Вайкава.

Тады і адступіла вёска ад ракі, схавалася паміж выдмамі.

**Пачуў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

------------------------

**Вярста** — мера адлегласці роўная 1052 м.

**Дубіца** — выдзеўбаная з дубовага камля лодка.

**Мясніцы, мясаед** — час паміж пачаткам Каляд і запустамі, калі дазваляецца есці ўсё скаромнае (мясныя і малочныя прадукты), спраўляць вяселлі, ладзіць забавы, весяліцца, гуляць.

**Перакат** — плыткая частка логава ракі.

**Плыт** — звязаныя паміж сабою бярвёны для сплаву па рацэ, канале, возеры.

**Струг** — пласкадоннае судна даўжынёй каля 40 м, пакрытае дахам.

**Сажань** — даўняя мера даўжыні роўная 213 см.

**Яравы палетак, яравы клін** — прытрохпольнай сельскай гаспадарцы, тая частка поля, дзе сеялі яравое збожжа, садзілі бульбу.

Вучнёўская творчасць

## Валянцінкі

„Валянцінкі", „Валянцінкі"
для хлопцаў і для дзяўчынкі.
Усё мы ведаем пра
„Валянцінкі"
і хлопцы, і дзяўчынкі.

Гэта вялікае свята
закаханым нагода
дорыць сабе сэрцы, сэрцайкі.
Тады спявае прырода.

Нясмелыя, мілыя людзі
на картачках пішуць
свае прызнанні:
у сімпатыі або каханні!

**Аня Садоўская**

## Вершы Віктара Шведа

### Мне снілася, што я ўжо ўстаў

Прад тэлевізарам тырчыць
Сынок настойлівы паўночы.
А раніцою моцна спіць
І аніяк устаць не хоча.

— Пара ўжо ў школу, Яраслаў, —
Нервуецца страшэнна матка.
— Мне снілася, што я ўжо ўстаў
І адпраўляўся на заняткі.

### Не ведае, што робіць боль

З плачам прыбег да мамы сын:
— Цягне сястра за валасы.
— Прабачыць ёй, малой, дазволь,
Не ведае, што робіць боль.

Просьба не памагла: прабач.
Матуля чуе доні плач.
Прыбег сыночак паясніць:
— Даведалася, што баліць.

## Вясёлы куточак

Малы Коля моліцца:
— Спраў, Божа, каб Осла было сталіцай Турцыі.
— Што ты гаворыш!? — здзіўляецца мама.
— Бо я так напісаў у кантрольнай працы па геаграфіі.

***

Малы Сцёпка моцна плача. Падыходзіць да яго Ёля:
— Чаго плачаш?
— Бо мой татка нядаўна ўпаў з драбіны і на дадатак раздзер сабе нагавіцы.
— А моцна пабіўся?
— Не.
— Дык чаго ж так плачаш?
— Бо мая сястрычка бачыла гэта, а я не.

***

На ўроку беларускай мовы:
— Міша, назаві два займеннікі!
— Хто? Я?
— Выдатна!

***

Да малога Марка падбег вялікі сабака, абнюхаў, лізнуў языком па шчацэ і адбег.
— Сыночку, ці ён цябе выпадкова не ўкусіў? — пытае ўсхваляваная мама.
— Не, ён мяне толькі папрабаваў.

***

На аўтобусным прыпынку адна жанчына бачыць малога хлопчыка бруднага і засмарканага.
— Хлопча, ці ў цябе няма хустачкі? — спытала.
— Ёсць, але чужым бабулям не пазычаю, — адказаў ён.

***

Закончыўся школьны год. Гутараць два сябры:
— Як у цябе?
— Бацька двойчы набіў мяне.
— Чаму двойчы?
— Першы раз, калі паказаў яму пасведчанне, што не перайшоў у наступны клас. А другі раз, калі згледзеў, што гэта яго старое пасведчанне.

**Андрэй Гаўрылюк**

Фестываль „Беларуская песня'96"

# Шукаць шчасце ў песні

Лёс культуры ў сённяшнія часы яскрава праявіўся пры арганізацыі пад знакам 40-годдзя БГКТ фестывалю „Беларуская песня'96", які адбыўся 10—11 лютага г.г. На першы, найважнейшы, рабочы дзень кіраўніцтва „Влукняжа", у зале якога адбываліся ў апошні час цэнтральныя агляды беларускай песні, адпусціла Беларускаму таварыству ўсяго чатыры гадзіны: 9—13-ая. Хочаш — бяры, хочаш — не бяры! Ёсць у гэты дзень важнейшае мерапрыемства: вялікі баль спартсменаў, які салідна трэба падрыхтаваць.

Праўда, нейкае абсталяванне пачалі ўжо выносіць з залы а гадз. 12.30, але выступленні аматараў беларускай песні працягнуліся да паловы другой. Самадзейныя артысты былі, відаць, папярэджаны, што трэба спяшацца: хуценька змяняліся на сцэне, маланкава ўстанаўлівалі, калі трэба было, сваю апаратуру і адспеўвалі той свой нумар, які мелі спяваць.

У выніку за чатыры з паловаю гадзіны змаглі выступіць у конкурсе ўсе прыехаўшыя 64 выканаўчыя адзінкі! Добра, што нашыя людзі патрапяць прыстасавацца да кожных умоў. Цяжка спадзявацца ў будучыні лепшага, калі ўжо выкідаецца на брук нават Ваяводскі дом культуры (хаця і пад гучнай сёння назвай: Ваяводскі асяродак анімацыі культуры).

Здаралася ў нас тое, чаго не прадбачвалі і не варажылі беларускай песні на Беласточчыне нават найбольшыя аптымісты: у свае рукі беларускую песню бярэ моладзь!

Тут мо аднаго пераліку было б дастаткова, так многа было маладых выканаўцаў.

Але ці ж можна было б не сказаць колькі цёплых слоў у адрас абаяльнага квартэта „Зорка Венера" з Варшавы, які заспяваў распісаную на галасы песню на словы Віктара Шведа і музыку Ірынея Лаўрэшука „Не забывай", як сапраўдны прафесіянальны калектыў! І занялі першае месца ў катэгорыі сучаснай песні.

Як не адзначыць майстэрства маладзёжнага хору „Каласкі", які працуе пад кіраўніцтвам Алы Дубец пры Беластоцкім аддзеле БГКТ! 24 асобы, наймалодшай — 14 гадоў, найстарэйшай — 19. На фестывалі заспявалі абрадную песню, якую спяваюць на Калядь, — „Го-го, каза!" — і першае месца ў катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні, перамаглі нават слаўных „Васілёчкаў"!

Аня Антушэвіч з Беластока, студэнтка філіяла Варшаўскага універсітэта, член вакальна-інструментальнага калектыву „Ада", чароўна, з вялікім знаўствам і цудоўным голасам заспявала беларускую народную песню „Ой, ляцелі гусі". Першае месца ў катэгорыі фальклорнай песні.

А чулі вы, як спявае маладзёжны калектыў „Чарамшына" з Чаромхі? Як на аглядзе цудоўна заспявалі народную песню „Голуб на чарэшні", умела пераплятаючы сучаснасць з традыцыяй?! Падзялілі другое месца з слаўнымі гарадоцкімі спявачкамі. Дык, думаю, у даны момант няма патрэбы непакоіцца пра будучыню нашай фальклорнай песні.

Цэлы музычны „экіпаж", які прыехаў з Гданьска, гэта таксама, як заўсёды, маладыя людзі. Але сапраўднай крыніцай мастацкіх талентаў з'яўляюцца сёння Бельскі і Гайнаўскі беларускія ліцэі. У апошні час мастацкі рух там (асабліва ў Гайнаўскім ліцэі) значна ажывіўся. У Бельску, дзе здаўна вёў мастацкія калектывы і робіць гэта да сёння Сяргей Лукашук, паявіўся малады музыказнаўца Уладзімір Сахарчук, які толькі два гады таму закончыў Інстытут культуры ў Менску па класу: дырыжор народных хораў. Ужо год вядзе ён вакальны калектыў у ліцэі (побач з „Дзявочымі ноткамі" Сяргея Лукашука) і калектыў „Васілёчкі". У Гайнаўскі ліцэй прыйшла настаўніца Бажэна Леўчук, якая ў дзевяноста чацвёртым годзе закончыла вучобу ў Менскай кансерваторыі па класу фартэпіяна. Ёсць каму арганізаваць у нас музычнае жыццё. Калектывы з гэтых ліцэяў паказалі на конкурсе высокі ўзровень.

Гаворачы пра ўдзел маладых у конкурсах беларускай песні, нельга не адзначыць вакальна-інструментальных калектываў „Ас", „Ада", „Рэаль" з Беластока, „Сальвадор" з Дубровы-Беластоцкай, калектываў з нарваўскага „Пронару", якія пачалі ў нас паяўляцца, як грыбы пасля дажджу.



Год таму ў Козліках нарадзіўся новы калектыў. Сёлета заняў на фестывалі другое месца ў катэгорыі фальклорнай песні.

Актыўнасць маладых людзей у цяжкія гады станаўлення новай гаспадаркі здзіўляе і цешыць.

Прабачце мне, старэйшыя выканаўцы, што я так распісалася пра моладзь. Я ж вам ужо аддала даніну, бо пісала пра вас не раз. Слава беластоцкім спевакам, што дзейнічаюць пры гарадскім аддзеле Беларускага таварыства, хору з Гарадка, бельскім „Васілёчкам" і „Маланцы", хору Гайнаўскага дома культуры, „Хлопцам-рыбалоўцам", якія адрадзіліся, „Журавінкам" з Агароднічкаў, якія моцна сталі на ногі і разрасліся, „Чыжавянам" з Чыжоў, „Бярозкам" з Кнарыдаў, у якіх каля пару дзесяткаў гадоў таму давялося мне быць на „хрысцінах", „Цаглінкам" са Старога Ляўкова, „Арэшкам" з Арэшкава, „Тыневічанкам" з Тыневіч, „Незабудкам" з Курашава і ўсім іншым, што спявалі і яшчэ доўга будуць нам спяваць родную песню.

Асобнае цёплае слова хацелася б сказаць калектыву з Паўлаў, які, хаця па гадах спявачак ужо не такі і малады, але ж арганізаваўся і спявае ўжо другі год у конкурсах беларускай песні і калядных калектываў. Таксама падзяка і калектыву з Козлікаў, які ўсяго год таму стварыла непаседлівая Люба Гаўрылюк амаль з адных маладых людзей.

Цешыць, што ажывіўся сямятыцкі рэгіён, што спявае сёння калектыў з Нурца-Станцы, у якім усяго адна спявачка — праваслаўная, усе іншыя — каталічкі. Спяваюць зладжаным хорам свае беларускія песні.

Ва ўсім гэтым відаць вялікая, інспіратарская праца Беларускага таварыства.

Прыемна было, калі падыходзілі да нас, з рэдакцыі „Нівы", людзі з калектываў, з якімі мы сябруем, куды даехалі, з кім сустракаліся, у каго гулялі на „хрысцінах" ці на нейкім „-годдзі". „Вы так хораша там сачыняеце, — кажа Вольга Ахрымюк з Чыжоў. — Мы з мужам усё чытаем!" І я дамаўляюся на сустрэчу ў Чыжах. „Як толькі разлічуся з грыпам, — кажу. — А як жа гэта вам так удаецца, каб не захварэць на выступленне?" — „А мы ўжо так стараемся, каб сябе шанаваць", — з вясковай мудрасцю адказвае Вольга Ахрымюк.

Валянціна Ласкевіч, ведучы раённы агляд беларускай песні ў Беластоку, сказала была, што людзі, якія спяваюць, шукаюць сваё шчасце ў песні. У мяне ад фестывалю таксама засталося такое ўражанне. Гэтыя людзі ведаюць, што жывуць.

На другі дзень, 11 лютага адбыўся канцэрт лаўрэатаў, які вялі Валянціна Ласкевіч і Віктар Губіч з Гародні. Працягваўся ён роўна пяць гадзін. Выступіў таксама народны ансамбль песні і танца „Талака", які працуе пры Віцебскай філармоніі. Прысутнічаў генеральны консул РБ у Беластоку Міхась Слямнёў з жонкай і начальнік упраўлення Віцебскага аблвыканкама Мікола Пашынскі.



Студэнтка Філіяла ВУ Аня Антушэвіч заваявала першае месца ў катэгорыі фальклорнай песні.

Ніжэй падаем спісак пераможцаў у фестывалі „Беларуская песня'96". Ацэньвала журы: Міхась Дрынеўскі, кампазітар і дырыжор з Менска; Ежы Сьрудкоўскі, вядомы беластоцкі музыказнавец, былы дырэктар Комплекса мастацкіх школ у Беластоку; кампазітар Андрэй Бандарэнка з Гародні і Віктар Губіч, намеснік дырэктара Упраўлення культуры Гарадзенскага аблвыканкама.

**У катэгорыі фальклорнай песні**

салісты:

І месца заняла Анна Антушэвіч (Беласток),

ІІ — Вольга Ахрымюк (Чыжы);

дуэты, тэрцэты, квартэты:

ІІ месца прызнана дуэту з Дубяжына: Анна Раманюк і Вольга Кандратовіч,

ІІІ месца падзялілі дуэт: Валянціна Франкоўская і Ніна Савіцкая з Вялікіх Тыневіч і квартэт з Чаромхі,

вылучаны дуэт: Ніна Грыгарук і Марыя Яканюк з Курашава;

вакальныя калектывы:

І месца заняў калектыў „Арэшкі" з Арэшкава,

ІІ — калектыў з Козлікаў,

ІІІ месца падзялілі калектывы „Тыневічанкі" з Вялікіх Тыневіч і „Бярозкі" з Кнарыдаў,

вылучаны калектыў „Незабудкі" з Кураваша.

**У катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні**

І месца прызнана Любе Гаўрылюк,

вылучана Анна Карэтка з Нараўкі;

дуэты, тэрцэты, квартэты:

І месца падзялілі між сабою дуэт: Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк ды дуэт: Уладзімір Іванюк і Анатоль Стэпанюк,

ІІ — квартэт „Цаглінак" са Старога Ляўкова і квартэт сям'і Якімюкоў з Чыжоў;

вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы:

спецыяльная ўзнагарода прызнана калектыву „Маланка" з Бельска,

І месца падзялілі: мужчынская група Гайнаўскага дома культуры і мужчынская група Беластоцкага аддзела БГКТ,

ІІ — гарадоцкі калектыў і калектыў „Чарамшына" з Чаромхі,

ІІІ „Цаглінкі" са Старога Ляўкова і „Чыжавяне" з Чыжоў;

хоры:

І месца заняў маладзёжны хор „Каласкі", які працуе пры Беластоцкім аддзеле БГКТ,

ІІ месца падзялілі калектыў „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага і хор Беластоцкага аддзела БГКТ.

**У катэгорыі сучаснай песні**

салісты:

ІІ месца падзялілі Эля Мацкевіч з Гданьска і Эмілія Астапчук з Бельска-Падляшскага,

ІІІ месца — Крыстына Сегень з нараўскага „Пронару" і Іаанна Масайла з Гайнаўкі.

Юры Налівайка атрымаў узнагароду за папулярызацыю беларускай песні;

дуэты, тэрцэты, квартэты:

І месца заняў калектыў „Зорка Венера" з Варшавы,

ІІ — падзялілі калектывы „Ас" і „Рэаль" з Беластока, вылучаны дуэт Анна і Ірэна Петкун з Гданьска;

вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы:

І месца прызнана калектыву „Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя,

ІІ месца падзялілі вакальна-інструментальны калектыў, што працуе пры нарваўскім „Пронары" і вакальна-інструментальны калектыў „Жаваранкі" з Гданьска;

хоры:

ІІ месца падзялілі між сабою хор Гайнаўскага дома культуры і маладзёжны хор Бельскага беларускага ліцэя.

За ўласную творчасць атрымалі ўзнагароды калектывы з Паўлаў і „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў, а таксама Ніна Цыванюк з Гарадка.

**Ада Чачуга**

**Фота Сяргея Грынявіцкага**



Белыя, як бярозкі, "Бярозкі" з Кнарыд (трэцяе месца ў катэгорыі фальклорнай песні).

# НЯДЗЕЛЯ СЫРАПУСНАЯ

*(Матф., 6:14—21)*

Мы апынуліся напярэдадні Вялікага Посту. Для пераважнай часткі хрысціян, асабліва для праваслаўных — гэта выключны перыяд у літургічным годзе. Напярэдадні Посту Царква адзначае Даравальную Нядзелю, калі вернікі, перш чым прыступіць да свайго ўласнага ўдасканалення, просяць адзін у аднаго даравання ўчыненых імі крыўдаў і правінаў. У гэты дзень чытаецца ўрывак з 6-га раздзела Евангелля паводле Матфея (6:14—21), у якім напамінаецца, што „калі не будзеце дараваць людзям правіны іх, то і Айцец ваш не даруе вам правін вашых". Інакш кажучы, намагаючыся аднавіць належныя адносіны з Богам, нельга не пачаць з прымірэння са сваімі бліжнімі. Гэтак у старажытнасці рабілі манахі, якія, накіроўваючыся на час Посту ў свае пустэльні, уладжвалі паміж сабою ўсемагчымыя непаразуменні. У шматлікіх цэрквах, да сённяшняга дня практыкуецца спецыяльны абрад даравання ўзаемных правінаў паміж святарамі і вернікамі. Такім чынам у гэты дзень Царква напамінае, што „хто жыве ў разладзе з іншымі людзьмі, не можа быць у згодзе з Богам" (Св. Іаан Залатавусны). Блажэнны Аўгусцін падкрэсліваў, што „не можа быць ні сапраўднага Посту, ні святкавання, дзе варожасць і гнеў". Асабліва цікавае выказванне на гэтую тэму знаходзім у св. Рыгора Ніскага. „Госпадзе, — пісаў ён, — рабі са мною, што я раблю. Я мог бы помсціцца за сябе, але паўстрымоўваюся і Ты не рабі гэтага. Я забудуся пра ўчыненыя мне крыўды, забудзься і Ты пра мае грахі... Я зрабіў тое, што Ты загадаў мне; выканай і Ты Сваё абяцанне: даруйце і вам даравана будзе" (Лук., 6:37).

Евангелле гэтай нядзелі напамінае таксама вернікам сапраўдны сэнс Посту, які не павінен ператварыцца ў бяздушны рытуал або вонкавую традыцыю, але павінен стаць унутранай патрэбай чалавека. Паказная, крывадушная пабожнасць наогул агідная Богу, які бачыць не толькі дзеянні, але і думкі. У сэнсе цялеснага посту, добраахвотна адмаўляючыся ад багатай, у тым ліку мясной ежы, чалавек узвышаецца над патрэбамі сваёй звярынай натуры, ставячы дух вышэй за цела. „Наогул ад тлустага чэрава не бывае тонкага розуму" (Іаан Залатавусны). Памяркоўнасць у дагаджэнні сваім прыхамацям адкрывае большы прастор для духа, вядзе да ўтаймавання дрэнных цягаў і спакусаў. „Колькі адымеш у цела, гэтулькі дадаш душы", — пісаў Васіль Вялікі ў IV стагоддзі. Паколькі сапраўдны сэнс Посту заключаецца ва ўзмоцненай дбайнасці пра ўдасканаленне і самаачышчэнні, св. Іаан Залатавусны заклікаў „пазбыцца ўсякага зла, утаймаваць язык і грэшныя схільнасці, адкінуць паклёпы, хлусню і клятвапарушэнні(...), накарміць галоднага, прыняць бяздомнага і беднага".

Вялікі Пост перад галоўным хрысціянскім святам — Уваскрэсеннем Хрыстовым — гэта таксама „дзесяціна", якую паводле старазапаветнай практыкі мы ахвяроўваем Богу.

Калі б не гэткае „духоўнае" разуменне Посту, пры сучасным збядненні грамадства, улічваючы дарагавізну, асабліва пры мізэрных заробках і неаднойчы галодных пенсіях — гаварыць пра пост, які самім сабою вымушаны, было б здзекам. Заклік да посту накіроўваецца аднак і да багатых, і да бедных, бо па-за „хлебам надзённым" ёсць іншы, адвечны і першарадны дэфіцыт. Нам усім акрамя поўнага страўніка, пра які рупімся больш за ўсё, патрэбнае ўнутранае аднаўленне, узаемнае прабачэнне і прымірэнне са сваім сумленнем, з бліжнімі і з Богам. Без гэтага дарэмнае выціранне каленямі царкоўных паркетаў і нізкія паклоны.

Пра гэтае і напамінае нам Царква напярэдадні Вялікага Посту.

**а. Канстанцін Бандарук**

# НАПЯРЭДАДНІ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

Праз некалькі дзён у жыцці вернікаў Праваслаўнай Царквы пачнецца самы важны з ліку постаў — Вялікі Пост.

У творах Святых Айцоў і царкоўных песнях пост называецца духоўнай лячэбніцай. Сапраўдны хрысціянскі пост заключаецца не толькі ў адмове спажывання акрэсленага віду харчоў, але і ва ўстрыманасці нашай душы ад усялякага зла, сапсаванасці і ўсяго, што вядзе да духовага падзення. Павінна гэта спалучацца з пакаяннай малітвай, маральнай чысцінёю, набожнасцю і дабрадзейнасцю. Царква прыпамінае нам: „Постящеся, братие, телесне, постимсе и духовне".

Пачатак посту сягае пачатку існавання чалавека, значыць Раю. Тады менавіта Гасподзь Бог устанавіў першы пост, загадваючы першым людзям не есці пладоў аднаго з райскіх дрэў (Быццё, 2:16—17). З таго часу ў чалавеку працягваецца пастаяннае змаганне паміж целам і душою, між дабром і злом. У гэтым змаганні пераможным ружжом, дадзеным нам Богам, з'яўляецца пост і малітва. Выносяць яны душу пад неба, адводзячы яе ад грахоў і ўсялякага беззаконня.

У Старым Запавеце пасцілі між іншым Майсей і Ілья (Выхад, 34:28), прарок Данііл (Дан., 10:2—3), цар Давід (2 Царств, 12:16—20), жыхары Ніневіі (Іона 3:5—10). Ізраільскі народ таксама меў назначаныя пастаянныя посты — у 4, 5, 7 і 10 месяц (Захар., 8:19). На мяжы Старога і Новага Запаветаў прыкладам вялікіх подзвігаў посту было жыццё Св. Іаана Хрысціцеля (Матф., 1:6) і прарочыцы Анны, якая была прысутна ў іерусалімскім храме, калі старац Сімяон сустракаў Дзіцятка Хрыста (Лук., 2:36—37). У Новым Запавеце ўстанавіў пост Гасподзь наш Ісус Хрыстос. Па прыкладзе Збавіцеля сваім жыццём прынялі і замацавалі навуку Апосталы і іншыя новазапаветныя праведныя мужы.

Загадваючы спажываць раслінныя прадукты, а забараняючы есці мясныя стравы, Царква ў перыядзе постаў быццам бы вяртае посцячых у нармальнае райскае харчаванне — спажыванне пладоў усялякіх раслін.

Царква Хрыстова адвяла для постаў асаблівыя перыяды на працягу года, а мы як верныя Яе дзеці павінны імкнуцца выканаць гэтыя правілы. Памятайма ў гэты час таксама аб пакаяннай малітве, міласэрных учынках і прыманні Цела і Крыві Госпада Ісуса Хрыста.

Памятайма яшчэ, што посная ежа служыць напамінам аб часе праверкі самога сябе, аб часе пакаяння і аб часе нашага духовага выпраўлення.

Канчаюцца Падрыхтоўчыя Тыдні, якія пачаліся з Нядзелі аб Мытніку і Фарысеі (пачатак Поснай Трыёдзі), а на самой справе з Нядзелі аб Закхеі. Гэта яна была вешчуном Вялікага Посту, паколькі галоўнай тэмай Евангелля на гэтую нядзелю з'яўляецца пакаянне. Менавіта на такі шлях увайшоў Закхей і ўпрыгожыў яго гатоўнасцю выпраўлення ўсіх учыненых ім крыўдаў. Вось перад намі апошняя з ліку падрыхтоўчых нядзель — Сырапусная, інакш Даравальная Нядзеля. Памятайма, каб у гэты дзень прабачыць сабе ўзаемна ўсе правіннасці, пакуль пачнем прасіць пра гэта Самога Тварца.

Згодна з Царкоўным уставам у Вялікі Пост стравы з алеем трэба спажываць у суботы і нядзелі ды ў некаторыя святы, а рыбу — толькі на Благавешчанне і Вербніцу.

Вялікі Пост пачынаецца ў **панядзелак, 26 лютага**. Асабліва памятайма пра важнасць першых яго дзён, не забывайма таксама аб Пакаянным каноне Св. Андрэя Крыцкага, які чытаецца ў цэрквах вечарам з панядзелка да чацвярга першага тыдня.

**С. Н.**

# Праваслаўнае школьніцтва на беларускіх землях у XVI—XVIII стагоддзях

*(заканчэнне; пачатак у 6 н-ры)*

***

Большасць брацкіх школ прыняла статут школ львоўскага і віленскага брацтваў. У прывілеі патрыярха Іераміі ад 1589 г., які павысіў львоўскае брацтва Успення ПДМ да рангу стаўрапігіяльнага, уладажаны былі таксама справы школьніцтва. Прывілея давала права на арганізаванне школ для дзяцей братчыкаў і патрабавала трымаць толькі „благочестивых" духоўных для навукі славянскай і грэчаскай моў. Іншыя духоўныя маглі вучыць толькі ад 2 да 3 дзяцей і толькі выключна на патрэбы свайго прыхода. Падобныя вырашэнні былі прыняты саборам епіскапаў у Брэсце ў 1594 г.

Брацкія школы маглі наведваць дзеці з розных грамадскіх слаёў і сіроты, якія вучыліся за кошт брацтва. Колькасць навучэнцаў была вялікая, асабліва ў школах стаўрапігіяльных брацтваў. Астатнія брацкія школы вучылі больш дзесяці вучняў. Настаўнікамі ў іх былі асобы, прыцягненыя сюды з іншых школ або вялікіх манастырскіх цэнтраў. Першымі настаўнікамі ў віленскай і луцкай школах былі выкладчыкі са Львова.

Статут брацкіх школ устанаўліваў таксама прынцыпы іх функцыянавання. Кожны кандыдат у школу павінен быў пазнаёміцца з яе статутам і ўплаціць 4 грошы ў школьную касу. Вучні былі абавязаны выконваць усе загады настаўніка. У сітуацыі калі бацькі або сваякі не выканалі гэтага абавязку, кандыдат павінен сам вывучаць прадметы навукі. Вучань быў абавязаны захоўваць таямніцу на тэму таго, што чуў і пабачыў у школе, а таксама выкінуць (калі такія ў яго былі) іншаверскія і ерэтычныя кнігі. Моладзь абавязана была аддаваць належную старэйшым асобам (як свецкім, так і духоўным) пашану і прымаць удзел у літургіях, ютранях і вячэрнях у нядзелі і святы. Спавядацца і прычашчацца трэба было ў кожнае вялікае царкоўнае свята, а таксама падчас чатырох вялікіх постаў.

Статут дэталёва вызначаў крытэрыі, якім павінен адпавядаць настаўнік. Паводле яго павінен караць дзяцей за гультайства і непаслухмянасць, аднолькава ставіцца да дзяцей з багатых і бедных сем'яў, абавязкова быць у школе ў ходзе заняткаў, ведаць аб адсутнасці вучняў і прычыны гэтага, чытаць малітвы перад заняткамі і пасля іх.

***

У брацкіх школах асноўная ўвага адводзілася мовам. Вучылі ў іх грэчаскай, царкоўнаславянскай, рускай (старабеларускай), лацінскай і польскай моў. Веданне іх было неабходнае для разумення навук, якія выкладаліся ў школах. У ліку свецкіх прадметаў былі граматыка, паэзія, рыторыка, дыялектыка і элементы філасофіі. У прывілеі Зыгмунта III ад 13 кастрычніка 1592 г. для львоўскай брацкай школы пералічваюцца звыш таго: логіка, арыфметыка, музыка, геаграфія і астраномія. Асноўныя заняткі ў брацкай школе адносіліся да царкоўнай навукі. У школе вучылі ўкладу Царквы, чытання і разумення Свяшчэннага Пісання, разумення літургіі, царкоўнай традыцыі, навукі св. Айцоў Царквы. Вучні знаёміліся таксама з жыццямі святых і канонамі царкоўных спеваў.

Для брацкіх школ Лаўрэнцій Зізаній выдаў у Вільні ў 1596 г. „Грамматіку словенску...". Падобныя граматыкі царкоўнаславянскай мовы выдалі львоўскае брацтва ў 1591 і Мялецій Сматрыцкі ў 1619 гадах.

Брацкія школы адыгрывалі важную ролю ў жыцці Праваслаўнай Царквы ў Вялікім княстве Літоўскім. Рыхтавалі яны святароў, дыяканаў і псаломшчыкаў для прыходаў, асабліва ў перыяд цяжкага становішча праваслаўнай іерархіі пасля брэсцкай уніі. Значная частка выпускнікоў выконвала дапаможныя функцыі пры цэрквах. Выдатнікі з часам станавіліся настаўнікамі ў іншых школах: брацкіх, прыдворных, прыхадскіх і манастырскіх. Школы выпускалі выдатнейшых рэлігійных палемістаў і царкоўных дзеячаў. Пасля ўвядзення ў брацкія школы шырокага навучання моў і свецкіх прадметаў, маглі яны ў значнай ступені пашыраць інтэлектуальны кругагляд праваслаўнай моладзі. Высокі ўзровень навучання ў школах быў вынікам выкладчыцкай працы выдатных прадстаўнікоў Праваслаўнай Царквы і рэлігійных палемістаў: Стафана Зізанія (Конкаля), Іова Брэцкага, Ісаі Капінскага, Ісаі Трафімавіча, Сільвестра Косава, Захарыі Капысценскага, Феафіла Леантовіча. Дзейнасць праваслаўных школ дапамагала абараняць правы Царквы і яе маёмасць. Школы падымалі стан рэлігійнай і нацыянальнай свядомасці, фарміравалі антыуніяцкія адносіны. Узнікненне брацкіх школ з такой шырокай праграмай трэба лічыць праявай рэнесансных тэндэнцый сярод рускай грамадскасці і выяўленнем агульнага развіцця культуры насельніцтва Вялікага княства Літоўскага.

***

Праваслаўнае школьніцтва ў XVI-XVIII ст.ст. можна падзяліць на тры катэгорыі: манастырскія, царкоўныя і брацкія школы. На беларускіх землях не дзейнічалі вышэйшыя навучальныя цэнтры. Праваслаўная моладзь з Вялікага княства Літоўскага штудзіравала ў праваслаўных акадэміях па-за яго межамі: у Астрожскай і Магілянскай ды ў каталіцкіх: Віленскай і Кракаўскай акадэміях. Брацкія школы выконвалі ролю сярэдняга школьніцтва. Іх узровень залежаў ад фінансавых магчымасцей брацтваў і ад прыцягнення адпаведных настаўніцкіх кадраў. Школам у працы перашкаджалі канфесійныя канфлікты ў многіх гарадах і захоп праваслаўных сакральных аб'ектаў разам з аснашчэннем.

Манастырскія школы былі найбольш стабільныя. Сваім абсягам абымалі яны невялікую колькасць моладзі, на практыцы — ад некалькіх да больш за дзесятак вучняў, і вяліся яны на элементарным узроўні. Адрозніваліся яны ад царкоўных школ вышэйшым узроўнем настаўнікаў і пашыранай праграмай навучання царкоўных спеваў або выкладаннем грэчаскай, рускай або царкоўнаславянскай моў. Царкоўныя школы адкрываліся, каб адукаваць двух—трох вучняў і навучыць іх парадку царкоўных службаў, чытаць і пісаць ды азнаёміць іх з асноўнымі прынцыпамі веры. Узровень такіх школ залежаў ад адукацыі і здольнасці святара або дыякана. Элементарныя школы ў палове XVII ст. абнялі сваім абсягам некалькі тысяч чалавек і складалі значны працэнт рускага школьніцтва.

Праваслаўная асветная сістэма выконвала важную задачу ў развіцці агульнага інтэлектуальнага ўзроўню рускай грамадскасці. Яе ўзнікненне вынікала з патрэб Царквы, а таксама з неабходнасці абароны сваёй веры ад іншаверцаў. Выхаванне маладога пакалення ў праваслаўным духу стала галоўнай задачай адукаваных саслоўяў Царквы. Брацкія, манастырскія і царкоўныя школы мелі стаць элементам гэтай праграмы. Для Праваслаўнай Царквы на беларускіх землях былі яны галоўнай крыніцай кадраў для духавенства і царкоўных служыцеляў. Праваслаўнае школьніцтва дазволіла захаваць канфесійную і нацыянальную тоеснасць вернікаў. Аб іх ролі сведчыць факт, што толькі гэтыя мясцовасці захавалі „грэчаскую веру", у якіх пры манастырах працавалі школы. Аказваецца, што асветныя ўстановы фарміравалі свядомасць не толькі маладога пакалення, але і ўсёй праваслаўнай грамадскасці.

**Антон Мірановіч**

# Дзе беларусы?

— Кажаш, што ёсць беларусы. Я цябе пытаю — дзе яны?

— Як гэта, дзе? Тут. На Беласточчыне! Ці ж ты глухі ды сляпы. Дзейнічаюць беларускія арганізацыі, выдаецца газета на беларускай мове, рана ў нядзелю і вечарам кожнага будзённага дня выходзяць у эфір паўгадзінныя беларускія радыёперадачы, вядуцца раз у месяц тэлеперадачы на беларускай мове, у Беластоку працуе польска-беларускі дзіцячы садок.

— Што з таго! Усе бацькі „пшэкаюць" і ад малога вучаць „пшэкаць" сваіх дзетак. На беларускай мове, на тутэйшым дыялекце, мала хто гаворыць. У самой Беларусі толькі рускі царуе. Людзі не хочуць гаварыць пабеларуску. Такая мова ім выдаецца смешнай і не падабаецца.

— Не ўсё праўдзівае. Ты не сказаў, што там існуюць калектывы, якія спяваюць на беларускай мове.

— У тых калектывах толькі старыя бабулі ды дзядулі; маладых або ўвогуле няма або толькі адзінкі. Ёсць беларускае тэлебачанне, але малая з яго карысць. Людзі ўцякаюць ад свайго як могуць. Беларусь, гэта толькі названне краіны, а беларусаў амаль няма. Нават нашыя студэнты просяць, каб не вучыць іх на роднай мове. Ужо прыходзілі лісты з Беларусі ў ГП БГКТ; слухаў пра гэта па радыё.

— Не ўсе ж такія; хопіць часам некалькі асоб, каб нешта зрабіць, чаго дзесяткі зрабіць не змогуць.

— Можа і змогуць, але фінансы ўсіх абяссіляць. Не будзе дафінансавання, і канец нашай культуры. Украінцы, літоўцы, немцы будуць мець падтрымку ад сваіх дзяржаў, а мы не. Тыя нацыі імкнуцца да свайго, а нашыя людзі з сэрцам зайца адыходзяць.

— Усё гэта праўда, але я думаю, што не памрэм мы бясследна.

— Можа астанецца на свеце дзесяць беларусаў як рэлікт даўняй беларускай дзяржавы.

— Як пражывуць адзінкі, то пражыве і цэлы народ.

— Ну і ўпарты ты. Каб усе былі такія, то беларусы зайшлі б далёка.

**Аўрора**

# МАЯ ДУМКА

У лютаўскі марозны дзень задумаўся я над лёсам нашай краіны. Селяніну найчасцей думкі лезуць у галаву тады, калі ў яго няма вялікай працы. Даў кароўцы сена ды на печку пагрэцца ўцякаеш, напаіў кароўку і зноў бяжыш на печ. А там стаў я раздумваць аб падатках, бо люты ды сакавік — гэта месяцы, у якіх трэба плаціць розныя налогі.

Мае роздумы спыніліся над адным толькі дарожным падаткам, які плацяць уладальнікі матацыклаў, легкавых машын, трактароў, грузавікоў і іншага транспарту.

Камуна пабудавала многа мастоў, асфальтавых дарог ды гравеек, многа дарог было пабудаваных грамадскім пачынам. Прыемна было выехаць супольна капаць кюветы пры дарозе з Нарвы ў Адрынкі, якая спалучае Нарву з Міхалоўскай гмінай. Цяпер няма каму даглядаць такіх дарог, няма грошай на рамонт. Бедная дзяржава. Едзеш улетку на легкавой машыне, аўтобусе ці на фуры такой гравейкай і мала што ў цябе кішак не вытрасе, праклінаеш тады сам сябе і ўлады за такі стан дарог. Транспартнае прадпрыемства ПКС пагражае, што ліквідуе аўтобусную лінію з-за кепскай дарогі і людзі зноў пачынаюць праклінаць...

Не шаную цяпер таго, што было намі зроблена, а толькі кажуць, што мы пакінулі ўсё знішчаным, з даўгамі. Гэта вялікая хлусня.

Колькі пабудавалі тады дарог, мастоў, школ ці вясковых крамаў, якія цяпер стаяць пустымі, нішчэюць ці прадаюцца за бясцэнак. Набіваюць такім чынам кішэні бізнесмены. Мне здаецца, што селяніну было кепска, ёсць кепска, а будзе яшчэ горш. Не паможа яму ніякі рэферэндум, бо нічога ад яго селянін не дастане, а ўсялякія прапагандысты толькі пыл пускаюць яму ў вочы.

Нічога добрага дэмакратыя селяніну не дала, а хоча выцягнуць з яго астатнія сокі, каб высах, як прыдарожнае дрэва.

**М. Лук'янюк**

# Смярдзючая справа

Не ведаю ад якога часу і чаму чыноўнікі дзяржаўных устаноў пачалі зачыняць прыбіральні ў службовых памяшканнях. Няўжо ж там захоўваюць нешта каштоўнае перад наведвальнікамі? Вось прыклад Управы гміны, якая знаходзіцца па вуліцы Міцкевіча ў Бельску-Падляшскім.

Было гэта на пачатку лютага. Спатрэбілася мне аформіць справу ў Раённай геадэзіі. У канторы прынялі мяне з належнай пашанай. Знайшлі мае дакументы ў камп'ютэры (вядома, зараз такая тэхніка), а нават пазванілі ў Арлянскую гміну, каб запоўніць мяне, што справа канчаткова вырашана.

Кантору пакідаў я з найлепшымі думкамі аб гэтай установе, калі мне спатрэбілася зайсці ў прыбіральню. Знаходзілася яна непадалёк, на гэтым жа паверсе. Была зачынена. Паспрабаваў яшчэ раз. Без выніку... Не стану паказваць, што было далей... Наступны прыклад з таго ж Бельска-Падляшскага. У цэнтры горада знаходзіцца рыначак, зараз за ратушай. Збіраюцца тут кожны дзень людзі, каб нешта прадаць ці купіць. Асабліва ў чацвер. Большая частка з іх — прыезджыя, многія з-за мяжы. Усё можна аформіць на бельскім кірмашы, апрача аднаго; са свечкай трэба шукаць прыбіральню. А гэтае месца неабходнае кожнаму чалавеку. Я сам быў сведкам, як нейкі мужчына шукаў ціхі куточак, каб схавацца перад вачыма людзей. Знайшоў ён такое месца за старэнькай драўлянай хацінкай забітай дошкамі, якая стаіць зараз пры вуліцы, за агароджай базару. Заглянуў туды і я. Божа міласцівы! Да чаго ж гэта даходзіць!

У Бельску-Падляшскім, памятаю, пры камуне стаяла прыбіральня непадалёк рынку і гандлёвых радоў. Зараз тут стаяць гандлёвыя кіёскі. Чалавеку ў нечаканых хвілінах хоць пад зямлю хавайся! Не ўцямлю сабе, які выхад знаходзяць рускія турысты.

Ды справа так маецца не толькі ў Бельску-Падляшскім. Як нядаўна гаварылася ў тэлебачанні, інспектары Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі (ПІГ) у выніку кантролю знаходзілі „падобныя справы" ў многіх іншых мясцінах. Ды як жа быць, паважаныя бацькі горада? Ад гандляроў бярэце грошы за месца на базары, заклікаеце людзей да ахоўы асяроддзя, а самі не ствараеце ўмоў чалавеку, каб ён быў сапраўды чалавекам. Ці ж гэта не смярдзючая справа?

**Уладзімір Сідарук**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XLIV**

Мой суразмоўца Фёдар Баршчэўскі лічыў, што мая прыхільнасць да ідэі незалежнасці Беларусі з'яўляецца вынікам польскае прапаганды, якая „хочэ апрацівіці беларусам Расею", а пасля падпарадкаваць сабе Беларусь і „жондзіці ёю пры помашчы ксяндзоў і амерыканцаў". Дэкляраваў пры гэтым, што ён беларус і што прыхільна вітаў бы незалежнасць Беларусі, але толькі тады, калі б гэта незалежнасць паляпшала а не пагоршвала жыццё звычайных людзей.

„Мне то здаецца так, што ты жывучы ў Варшаве наслухаўсе польскае прапаганды і от цяпер гаворыш аб гэтуй незалежнасці. А палякі, то вядомо, хочут апрацівіці беларусам Расею, улезці ў Беларусь, жондзіці ёю пры помашчы ксяндзоў і амерыканцаў. Каб жыў твой бацько і каб паслухаў тваіх разговораў пра гэту нізалежнасць, то нібось, ён даўбы табе чосу, бо ён то напэўно глядзеў на гэто дзело таксамо як гляджу і я. Што ж, вядомо, што я беларус, і я ні быў бы проціў, каб у Беларусі была і беларуска школа, і беларуска цэрква і беларуске войско. Але дзе ты іх возьмеш. Калі кажды з іх па-руску шчэбэчэ. То як ты сілаю прымусіш народ, каб ён схацеў таго, чаго ён ні хочэ. От гэты людзі, што да нас прыязджают сюды на спекуляцыю, то яны гаворат аб усім, але ні гаворат пра гэту незалежнасць. А калі і гаворат то заўшэ плюют, бо вэдлуг іх як быў Савецкі Саюз, то ім жылосе добрэ, а як цяпер пачалі развальваці Савецкі Саюз, то пачало ім жыцца вельмі кепско. От, гэты цэлы беларусы выразно ні хочут родзіны ад Брэста да Смаленска але хочут родзіны ад Брэста да Уладзівастоку. Ты знаеш, я чуў як з Мінска ну якісь там правадыр гэтых незалежнікаў, Пазнак чы як яго там называют, то ён крычаў, што камуністаў трэбо вешаці. То ты знаеш, што такое то толькі гітлераўцы гаварылі. Ну то калі такіе людзі мают рабіці тую незалежнасць, то знай, што яе народ ніколі ні паддзержыт. От калі ты так моцно хочэш тае незалежнасці, то ты парадзь тым беларускім галаварам, каб яны робічы тую незалежнасць, зрабілі так, каб людзям лепш жылосе. От, калі пачне лепш жыцца, то тады народ паддзержыт незалежнасць. Але калі будут уводзіць гэту незалежнасць, але з каждым днём будзе больш зладзейства, камбінацыеў, і ўсе больш будзе бяды, то такое незалежнасці народ ніколі ні паддзержыт.

А кроме таго, то я табе скажу, што Расея ні такая дурная, каб гэту Беларусь з рук выпускаці. То ж рускіе за яе кроў пралівалі. І ведай, што як гэта цэла незалежнасць ужэ людзям поўнасцю надаест і будзе залезе ў каждую сям'ю, то тады многі беларусы добравольна папаўзут у Маскву або знойдзецца хтось такі, хто іх туды паглачэ на вяровачцы.

Ты знаеш, я слухаю і польскаго радзіва і беларускаго і свабоду па-беларуску або па-руску. І скажу табе, што лгут усе. А колькі „салідарнасць" лгала, абяшчаючы залатые горы. А што з гэтаго вышло — чэпуха! От відно ты і слухаеш гэтых разных лгуноў. А ты іх ні слухай, ты слухай народу. От тут нашых людзей слухай, ну і тых з Беларусі таксамо слухай. А гэтых балбатуноў, то ні слухай, бо яны хочут да ўласці дарваціся, заняці ўсе пасады, награбсці грошэй і распанеці. А як ужэ дарвуцца, то нібось будут красці больш чым кралі тые, што жондзілі раней. Бо бачыш, тые, што кралі раней, то яшчэ крыху баяліся і крыху совесці мелі, а гэты сягодняшні то ўжэ ні мают ні совесці, ні страху. Ты ні думай, што гэты, што так моцно носіт Матку Боску ў кляпі, ні награбе сабе міліярдаў. Награбе! А паглядзі на сэйм, то ж яны без пшэрвы грызуцца, але калі толькі трэба галасаваці, каб сабе зарокі падняці, то ўсе як адзін чалавек „за" галасуют. От так само і ў гэтуй Беларусі будзе, дарвуцца новы жулікі, награбут сабе грошэй але крычаці будут, што яны цэлы час аб народзі думают, каб значыцца ему добрэ жылосе, мой пане.

Ты думаеш, што я то ні думаю пра судзьбу гэтае, як ты кажэш, малое родзіны або вялікае родзіны. Думаю! І хацеласё б мне, каб і тут і там беларус жыў як найлепш і каб быў свабодным чалавеком. Але бачыш, такая відно ўжэ наша судзьба, што мы ніколі ні будзем поўнасцю свабодны. Ты ж паглядзі і паслухай, як у нас говорат маладзёж, як говорат папы, як говорат учыцеля, як говорат ужэнднікі. Усе рэжут па-польску, а папы ў цэркві паруску а ў хаці з дзяцьмі па-польску. От табе і маеш беларусаў! Ну а там за граніцаю то ўсе па-руску. То дзе ж тут месца для гэтае незалежнасці, мой пане, дзе?"

**Алесь Барскі**

# СУЧАСНЫЯ ЗАБАБОНЫ

У „Ніве" н-р 24 ад 12 чэрвеня 1994 г. быў надрукаваны даволі цікавы рэпартаж Ганны Кандрацюк пад загалоўкам „Зачараваны край", у якім аўтарка пісала пра забабоны ў вёсках і гарадах Беласточчыны. Я ў забабоны не хачу верыць, хаця многа аб гэтым чуў ад людзей. Забабоны гэта нагода да ліхадзейства сярод тых людзей, якім яны астаюцца загадкавай і таемнай справай. А для ведзьмароў — гэта проста варштат працы. Хачу звярнуць увагу чытачоў на вельмі небяспечныя з'явы, якія даволі шырока распаўсюджваюцца сярод грамадства. Гэта: зайздрасць, паклёпніцтва, праклёны, унушанне хвароб, бедаў, няшчасцяў і г.д. Многія свядома грашаць, фальшыва скардзячыся на свой лёс, каб словамі перадаць найгоршае іншым і самому асцерагчыся ад гэтага. Яны ўпэўнены ў тым, што ім гэта ўдасца, згодна з лозунгам „Сільная воля чыніць цуды".

Васіль часта ў суседа расказваў пра сваіх кароў, што не з'ядаюць пашы, паскудзяць у жалабы і каб іх гром выбіў... Васілёў сусед неўзабаве пераканаўся, аднак, што абазначаў расказ шкоднага чалавека, калі нечакана пярун забіў яму на пашы адзіную карову, да таго яшчэ і аглушыў жонку, у выніку чаго яна патрацілa слых.

Здараецца часта, што да цяжарнай жанчыны прыходзяць людзі, каб яна палечыла іх дотыкам свайго жывата або пацягнула за балючую руку ці нагу. Прыходзяць таксама да кормячай грудзьмі маці, каб яна малаком проста з цыцкі пырснула ім у балючае вуха, або дала трохі малака ў кілішак. Такое малако ад некалькіх жанчын мае цудоўную моц у лячэнні ўсіх хвароб, а таксама і п'яніц. І падумаць, каб так усім чарадзейскія метады дапамагалі, то непатрэбныя былі б і лекары...

Лёня часта сварыўся са сваёй жонкай і біў яе па-цвярозаму нават тады, калі была яна цяжарнай. А як скандфузіца дык бяжыць, бывала, вешацца, а яго жонка з плачам следуе за ім. Потым Лёнева жонка звярнулася за памаччу да знахароў, а тыя ёй параілі, каб яны апошні раз назнарок заімправізавалі такі „акт" у згоднай сям'і. Так і сталася. Аднойчы Лёня прыбег з вяроўкаю да свайго сябра Сцёпы, а за ім услед і яго жонка Люба. Лёня расплакаўся ў чужой хаце як малое дзіця, пагражаючы, што павесіцца, бо сам ён незадаволены жыццём. Люба, таксама горка наракаючы, плакала і прасіла, каб Лёня апамятаўся, бо навошта ж ёй такое перажываць. Сцёпа, бачачы, што абое „клеяць дурня", сказаў: „Паабяцаў Лёня ліхому душу, хоча, каб чэрці варылі яго ў смале, то няхай і вешаецца, а ты, Люба, пацягні яго яшчэ за ногі да зямлі, так, каб аж язык высалапіў!" Тэрапія ўдалася. Лёня ўжо супакоіўся, а Сцёпа бегае адбіраць вяроўку ад сваёй жонкі Люсі. Во як!

Я заўважыў на працягу многіх гадоў, што чараванне практыкуюць адны і тыя ж самыя забабонныя асобы для свае выгады. Калі паеду сеяць збожжа, то ведаю, хто прыйдзе для чараў пазычыць грошай, хто лапату, а хто нож, каб застругаць аловак для свайго школьніка і г.д. Ведаю, хто прыходзіць адрэзваць без дазволу памаладак з вазоніка ў велікодную пятніцу або суботу, ці па жвір для нясушак на другі і трэці дзень Каляд. Ведаю таксама, хто, ідучы ў царкву, у прытворы перад пацалаваннем выцірае ікону рукавом. Не ведаю, аднак, хто і навошта закапаў мне на мастку поўны мяшок касцей ці падлажыў за стадолаю ў стог саломы двое здохлых свіней... Ці ж варта гэтак рызыкаваць? Відаць не надарма гаворыцца ў народзе: „Як каркаюць, так і накаркаюць". Напрыклад, аднойчы прыйшоў да мяне сын вельмі разумнай жанчыны, каб паспачуваць з нагоды... дачакання ўнука. Я вырваў ад яго сваю руку і адышоў. На жаль, шкодныя словы неўзабаве сталі фактам.

**Чытач**

## Позірк у мінулае

**25 лютага**
1873 г. — нар. Энрыка Каруза, італьянскі спявак.
1956 г. — закончыўся XX з'езд КПСС, на якім Нікіта Хрушчоў асудзіў злоўжыванні і культ асобы Сталіна.
1986 г. — адкрыты XXVII з'езд КПСС, на якім Міхаіл Гарбачоў заявіў пра радыкальныя рэформы.

**26 лютага**
277 г. — памёр Мані, персідскі рэлігійны прапаведнік, заснавальнік маніхеізму.
1802 г. — нар. Віктар Гюго, французскі паэт.
1832 г. — цар Мікалай I выдаў статут польскай дзяржавы, які прадугледжваў непарыўнае злучэнне Польшчы з расейскай імперыяй.
1952 г. — Уінстан Чэрчыль аб'явіў, што Вялікабрытанія распрацавала сваю атамную бомбу.
1956 г. — першы з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

**27 лютага**
1917 г. — зviржэнне царскага ўрада ў Расеі.
1932 г. — нар. Элізабет Тэйлар, амерыканская кінаактрыса.
1933 г. — пажар Рэйхстага, які стаў прычэпкай для праследавання палітычных праціўнікаў нацыстамі.

**28 лютага**
380 г. — кесар Феадосій I, ахрышчаны салунскім епіскапам, выдаў пастанову, у сілу якое ўсе яго падуладныя станавіліся хрысціянамі.
1921 г. — выбух паўстання 16 тыс. матросаў у Кранштаце.
1986 г. — забіты прэм'ер-міністр Швецыі Улаф Пальме.

**29 лютага**
1468 г. — зацвярджанне сеймам Вялікага княства Літоўскага Судзебніка Казіміра,
1980 г. — першыя дэмакратычныя выбары ў Радэзіі-Зімбабве.

**1 сакавіка**
1565 г. — іспанскія каланізатары заснавалі пасяленне Рыо-дэ-Жанейра.
1566 г. — уступіў у дзеянне другі Статут Вялікага княства Літоўскага.
1810 г. — нар. Фрыдэрык Шапэн, польскі кампазітар.
1872 г. — у ЗША адкрыты Йелаўстан-парк, першы нацыянальны парк у свеце.
1912 г. — амерыканец Альберт Беры выканаў першы скок з парашутам.
1963 г. — передача беларускай прамыслова-гаспадарчай управы „Бэтэска" пад спулдзельчую адміністрацыю.
1966 г. — першы зямны аб'ект, савецкая станцыя *Венера-3* разбілася на паверхні аднайменнай планеты.
1989 г. — пасля 77 „сухіх" гадоў у Ісландыі дазволена прадаваць піва.
1992 г. — у збайкатаваным сербамі рэферэндуме 99,4 прац. яго ўдзельнікаў выказалася за незалежнасцю Босніі-Герцагавіны.

**2 сакавіка**
1919 г. — пачатак першага кангрэса Камінтэрна ў Маскве.
1949 г. — закончыўся першы беспрапынны кругласветны палёт; *Боінг Б-50* знаходзіўся ў паветры 94 гадзіны.
1969 г. — першы французска-брытанскі суперсанічны самалёт *Concorde* стартаваў у Тулузе да 27-мінутнага пробнага вылету.

(Ш)

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, быццам я знаходжуся ў кватэры майго прыяцеля. Ведаеш жо, Астроне, што я ўдава. Пазнаёмілася са старэйшым за мяне на 12 гадоў чалавекам, таксама ўдаўцом. Абое адзінокія, мы дагаварыліся, што будзем дапамагаць адно другому. Ён часта наведваў мяне, бо жыве недалёка. Працягвалася так два гады. Але ў канцы мінулага года ён моцна захварэў. Ляжаў у бальніцы. Выпісалі яго ўжо дамоў, але хадзіць ён сам не можа. Патрэбная пастаянная дапамога. Хацеў, каб я ім апекавалася, але я сама нездаровая, хаджу з кійком і таму я адмовілася. Сям'я наняла яму апякунку.

І вось прыснілася мне, што я ў яго доме. Сядзім разам. Неспадзявана зверху, як бы з неба, ляцяць на нас пісталеты, кінжалы, нажы і яшчэ ўсякая ўсячына. Мы ўцякаем. І ўжо я яго не бачу, я адна, стаю пры дзвярах сваёй кватэры. Глянула я ўніз, а там ляжыць ножка куранцi. Не ведаю, ці сырая, ці вараная. Падумала, не буду кранаць, хай лепш нейкі кот яго з'есць. І тут жа яна прапала.

Што можа абазначаць гэты дзіўны сон?

**Кацярына**

Даражэнькая Кацярына! Я ўжо сапраўды нарэшце адказваў на твае сны. Спадзяюся, што трапна, хаця і я ўжо слабею, часта мне нездаровіцца, трэба ўжо рыхтавацца ў далёкае падарожжа. Магу дзе ў чым і памыліцца. Даруй мне, калі ласка!

Твой сённяшні сон не вельмі добры. А найгоршыя тыя нажы, кінжалы, пісталеты. Бо, бачыш, пісталет прысніць — так і чакай вялікай сямейнай непрыемнасці. Нажы таксама прадвяшчаюць сваркі, непрыемнасці. Кінжалы гавораць за тое, што пагражае табе небяспека.

Я думаю, Кацярына, што нейкая хвароба (твая ці некага блізкага) парушыць твой спакой. Магчыма, гэта будзе датычыцца тваёго прыяцеля, бо ўсё гэта дзеецца ў яго доме. Ножка куранцi дадаткова пераконвае мяне ў тым, што гэта будзе з-за хваробы.

**Астрон**

## Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| 4 577. | Міраслаў Навіцкі (Гайнаўка) | — 6 зл. |
| 4 578. | Уладзімір Асіпюк (Чыжыкі) | — 30 зл. |
| 4 579. | Ніна Кірылюк (Гайнаўка) | — 6 зл. |
| 4 580. | Віктар Кірылюк (Гайнаўка) | — 6 зл. |
| 4 581. | Уладзімір Петрачук (Гайнаўка) | — 50 зл. |
| 4 582. | Уладзімір Купрыяновіч (Беласток) | — 10 зл. |
| 4 583. | Ян Ляшчук (Гайнаўка) | — 6 зл. |
| 4 584. | Рыгор Яканюк (Дубічы-Царк., 38) | — 5 зл. |
| 4 585. | Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) | — 50 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.**

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна** 3. пеўчая птушка з чорным апярэннем, 8. насякомае-крываcмок, 9. прымяненне, выкарыстанне, 10. буйная драпежная птушка, 11. прадукт, 13. немата (афонія), 15. горад на поўначы Беларусі, 16. усходнеафрыканскае племя, 20. прадавец з латка, 22. горад у Ферганскай даліне, 23. Жан, французскі драматург (1639—1699), 27. балгарскі кампазітар (1881—1931), 29. сталіца Іспаніі, 30. франтаваты, пусты чалавек, 31. двухколы воз у Сярэдняй Азіі, 32. моцны напор, 33. даўняя мера даўжыні, роўная 71,12 см, 34. жаночы голас.

**Вертыкальна:** 1. буйная малпа, 2. пачцівасць, прызнанне высокіх якасцей, 4. лінія перасячэння круглага конуса плоскасцю паралельнай датычнай плоскасці гэтага конуса, 5. вясковы буржуа, 6. мінулае, прошлае, 7. серабрыста-белы метал, 12. равеснікі ад адной маці, 14. займаецца фатаграфіяй, 16. хлусня, 17. горад на поўначы Украіны, 18. травяністая расліна багатая эфірным алеем, выкарыстоўваецца ў медыцыне, лікёра-гарэлачнай вытворчасці і харчавой прамысловасці, 19. народны песняр у Сярэдняй Азіі, 21. група артыстаў, 24. слаўны расейскі крэйсер, 25. старажытная назва сённяшняй Іспаніі, 26. распараджэнне, 27. Людвіг, нямецкі пісьменнік (1781—1831), 28. напад.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на святочны касяк з 1 н-ра:**

Направа: Даніэл, літанія, дэльфін, маснік, ліст, суботнік, дулебы, Ігналіна, Корсіка, хаўтуры, Арам, БНФ, сума.

Налева: Даліда, Наталля, Іанафан, мост, ляднік, сабака, саланчак, інтэрвал, Балатан, хімікат, Нэру, бас, Фама.

Кніжную ўзнагароду высылаем Лукашу Пацэвічу з Беластока.

## ПАРНАСІК

### Авангард

Наш старэйшы авангард
Яшчэ не паддаўся,
Сідарук і Петручук
У „Ніве" паказаўся.
Гаўрылюк і Панфілюк
Моцна так стараліся,
Без перапынку цэлы час
У „Ніве" аб'яўляліся.
Ну і заўзятая Аўрора,
Не было для яе зморы,
Шчыра так трудзілася
І „Нівай" ганарылася.
Наш Падарожнік Янка
Кругленькі, як шклянка,
Крыху лепей панімае,
„Ніву" нам развесяляе.
Сорам для мяне прызнацца,
Год у „Ніве" не паказацца.
Я так моцна разляніўся,
Што пра „Ніву" прызабыўся.
Абяцаю шчыра вам
З „Нівай" сябраваці,
Колькі буду яшчэ жыць
У „Ніву" пісаці.
Заклікаю маладых
„Нівы" не цурацца,
Нашай мовы не забыць
І ў „Ніве" аб'яўляцца.

**Мікалай Лук'янюк**

### Месяц люты

Месяц люты, ці ён суровы?
Апошні месяц зімы.
І ён таксама новы,
Даўжэюць дні.
Бывае ён і люты,
Як гаворыць назва.
Трэба быць цёпла абутым,
Для ўсіх гэта важна.
Сонца вышэй падымаецца —
Так мае быць!
Вясна прыбліжаецца,
Нам трэба жыць.
Хаця марозы трашчаць
У вокнах, на дрэвах,
Але не будзем злаваць,
А захапляцца гэтым рэхам.
Люты нас не звольніў з работы —
Мо толькі хвароба.
Кінем на бок усе турботы,
Няхай нас супольна трымае дарога.
Куды? Да вясны сэрца,
Няхай закрасуецца ў нас.
Зоймем сваё месца,
А я вылятаю ў Парнас!
Месяц люты не такі страшны,
Як аб ім варожаць.
За сябе ён адказны,
Няхай далей прарочаць...
Птушкі не забылі лятаць
Шукаючы корму;
Так, як і звяры пазнаваць
Цяжар зімы і яе „норму".

**Мікалай Панфілюк**

### Гора

Каб мне голас добры мець,
Каб гора куды падзець,
Каб мне гора Бог не даў,
Я б вясёла заспяваў.
Ой гора маё.
Узяў я сваё гора ў клунак,
Узяў бяду сваю, фрасунак,
Кінуў у рэчку аж да дна,
Прыйшло гора, як штодня.
Ой гора маё.
Загарнуў гора ў салому,
Дый у лапаць палажыў,
Заўтра толькі, чуць свет Божы,
Гора-горам, лапаць згніў.
Ой гора маё.
Узяў я гора ды і ў дошках
Закапаў у глыбокі роў,
Адышоў ад ямы трошкі —
Ажно ў хаце гора зноў!
Ой гора маё.
Узяў я гора дый на возе,
Завёз у лес, прыбіў да пня.
Заўтра рана, чуць свет Божы
Прыйшло гора як штодня.
Ой гора маё.
Забраў я гора ў чужыну
Дый у Амерыку завёз.
Думаў — тут або я згіну,
Або з горам будзе лёс.
Ой гора маё.
Але і там няма спакою,
З горам лёг і з горам устаў.
Мусіць Бог яго са мною
Разам возьме, так як даў.
Ой гора маё.

**Аляксандр Барташэвіч**




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк.

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 5 marca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 st. zł), a kwartalnie — 18,85 złotych (188 500 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

## Гульбішча

Я на гульбішча пайшла,
Танцаваць вучылася.
Паслізнулась на падлозе,
На кій напаролася.

Танцавала цэлы вечар,
Танцавала ноч і дзень,
А калі прыйшла дахаты,
Мама валацугай зве.

Не кажы так, мая мама,
Валацугай не заві,
Танцаваць я навучылась,
Мяне Ваня палюбіў.

З Ванем крышку пастаяла,
Ваня мяне цалаваў.
Абяцаў, жаніцца будзе,
Каханаю называў.

Пайду яшчэ пагуляці,
Каб з Ванем пабачыцца.
Пусці мяне, родна маці,
Бо сэрца вырываецца.

Ідзі, ідзі, дачка родна,
Ідзі, крышку пагуляй.
Будзе Ваня цалаваці,
Абнімі, назад аддай.

Дачка з Ванем танцавала,
Дачку Ваня цалаваў,
А прыйшоў дзевяты месяц,
Ён калыску рыхтаваў.

**Мікалай Лук'янюк**







— Знаёмцеся, мая нарачоная.
— Вяселле і хрысціны сумесцім.

**Мал. М. Гіргеля**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ
### "Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Настаўніца ў школе:
— Казік, чаму ты ўчора не быў на занятках?
— Бо ўчора памёр мой дзедка.
— Не хлусі: учора я бачыла твайго дзедку ў акне.
— Тата паставіў яго ў акне, бо пісьманосец ішоў з дзядулевай пенсіяй.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Распраніцеся і ляжце на казетку.
— Пан доктар, я сёння сапраўды хворая, а вы, як заўсёды, пра секс...

* * *

Лекар дазволіў сваёй пацыентцы курыць толькі адну папяросу — пасля абеду. Падчас чарговага візіту заўважае з задавальненнем:
— Бачу, што мае рады памаглі! Выглядаеце лепей, нават крыху патаўсцелі...
— Нічога дзіўнага — цяпер абедаю пяць разоў у суткі.

* * *

У кабінеце стаматолага:
— Ці гэта праўда, пан доктар, што вы рвяце зубы бязбольна?
— Не заўсёды гэтае ўдаецца. Учора, напрыклад, калі я вырываў зуб, звіхнуў сабе руку.

* * *

Верка пасля медыцынскага агляду распранаецца дагала і кажа лекару:
— Сёння не маю грошай, дык заплачу натурай.
— А чаму ў вас такі брудны жывот?
— Гадзіну таму я расплачвалася за вугаль...

## Язык у роце, як чорт у балоце

Люблю сваю маленькую радзіму. Дый як яе не любіць?! Надарылася мне неяк па сваіх краязнаўчых справах завітаць у адну з аддаленых нашых вёсак. І хоць мяне, як Шурыка з камедыі „Каўказская палонніца", фальклор у дадзенай сітуацыі не цікавіў, устрымацца, каб не запісаць усё, што пачуў, я проста не мог.

Аўтобус спыніўся на вясковым прыпынку і праз нейкую хвілінку я ўжо крочыў па зялёнай і пахучай ад бэзу вуліцы. І раптам вясковую цішыню і мае думкі парушаюць жаночыя галасы. Падыходжу бліжэй: дзве мажкія, загарэлыя жанчыны, як быццам хто іх кіпетнем ашпарыў, з'едлівымі і звонкімі галасамі крычалі адна на адну. На суседзяў і незнаёмых людзей яны ўвагі не звярталі. Галоўнае, каб іх усе чулі. Адна стаяла на вуліцы каля сваіх веснічак, другая — каля сваіх.

Падышоўшы да жанчын, я зразумеў, што трапіў на самы пачатак сваркі. Сапраўды, прэлюдыя ўжо закончылася і пачалося самае яркае — праклёны. Першая кабета, з барадаўкаю на шчацэ, гучна заявіла: „Каб твае дзеці на ліхтар гаўкалі". Другая, пісклявым галасам у адказ: „Каб ты на лямпачку глядзела як на сліву..." Я хуценька дастаў блакнот і толькі паспяваў запісваць: „Каб у тваіх свіней рогі павырасталі", „Каб ты апундырылася", „Каб у цябе вантробы вытрыбушыла", „Каб з цябе чэрці вяроўкі вілі", „Каб у цябе язык калом стаў", „Каб табе на тым свеце дна не было", „Каб табе язык парахнёй у горла сыпаўся", „Каб ты на беразе ўтапілася", „Каб цябе ў чыстым полі дзверы прыціснулі", „Каб ты мужыкоў голых баялася", „Каб ты да гэтых веснічак прырасла", „Каб ты ўздоўж лаўкі выпрасталася", „Каб...". О, яшчэ многа было гэтых „каб". Нарэшце запас усіх праклёнаў скончыўся. Праўда, адна з жанчын яшчэ паспела сказаць: „Крычы-крычы, на лета за пастуха згодзіш!" Але далей пачалося самае арыгінальнае, бо ж у сварцы, вы ж ведаеце, шаноўныя чытачы, перамагае цярпенне: хто даўжэй застанецца на вуліцы — той пераможца. Першай з іх у хату ісці ніхто не хацеў — людзі ж глядзяць, падумаюць — прайграла. Таму жанчына з барадаўкай на шчацэ, не саромеючыся сваіх аднавяскоўцаў, падняла спадніцу, спусціла панталоны і пляскаючы далонню па прышчатай задніцы, закрычала: „Любуйся, любуйся, вось табе люстэрка!" Для другой кабеты — гэта быў гром з неба. Але яна не разгубілася. Пасля слоў „Каб цябе ў сук сагнула", яна таксама стала ракам і зрабіла тое ж самае.

Амаль паўгадзіны ішла перастрэлка голымі задніцамі. І невядома чым усё скончылася б, калі б, скуль не вазьміся, муж адной з іх прыйшоў на абед. „Чаго стаіш збоку прыпёку: здымі штаны і пастой замест мяне, а я пайду карову падаю", — сказала кабета і імгненна спусціла мужу штаны з трусамі да кален, паставіўшы яго ў позу літары „Г" замест сябе.

Суседка, якая стаяла насупраць, адвярнулася і глянула на свайго „ворага". Але, нічога не зразумеўшы, на ўсю вуліцу заявіла: „Людцы добрыя, глядзіце, глядзіце, хацела мяне запрэгчы ў хамут. А ў яе ўжо кішкі паміж ног ціліпаюцца, а яна ўсё стаіць. Дабрахалася да ліхога канца..."

Што было далей, я не ведаю, хаця ў народзе кажуць, што ад сварак не баліць карак. Прызнаюся толькі, што мне ўжо было не да краязнаўчых пошукаў. Пад шчыры і вясёлы рогат жыхароў вёскі я вяртаўся на аўтобусны прыпынак. Вяртаўся і думаў, што яшчэ жыве наш беларускі фальклор, а значыць жыве і вёска.

**Сяргей Чыгрын**

*З народнага гумару*

## Як масляну справілі

Над ранам Вася прыліез ракам додому в шкарпэтах, бэз нагавіць, обсусляны чорною сліною на губах. Его жоунка Ніна якраз встала з луожка вправлятися.

— А што ты, Вася, дэсь шмару напівся, дэ ж так забродяжыв?! — спытала вона.

— Знаеш, дорогая! Вчора на вэчорках в Сімёна мы так нэсподівано справілі вэльмі добрэ масляну, — ледво-ледво проговорыв вуон. — А як нэ хватіло „Роялю", то потуом выпілі по пару склянок шчэ лікеру на косціох, ну, тоі, як правда, дінатуры. Нігдэ нэ бродяжыв. Повіерыш, як зара трахну номэра, — прызнався Вася.

— Коб ты провалівся з твоім траханём! Нэ могу дівітісь на тэбэ! — твэрдо одрубала вона і, бразнувшы муоцно двэрыма, пушла з відром сама доіті коровы.

**Чытач**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькая Сэрцайка! Сорамна мне і пісаць такое. Крыху — з увагі на тэму, а яшчэ і таму, што плявкаваць пра мужа — не выпадае. Але, калі ўжо ўзялася я за пяро, дык напішу.

Мы пажаніліся дзесяць гадоў таму. Ну, вядома, што з кахання — інакш я не ўяўляю сям'і. Але я тады была яшчэ на этапе платанічнага кахання. Мне „ложка" магло не быць. Зрэшты, мама вучыла мяне, што непрыстойна дзяўчыне рваца „ў пасцель" да хлопца. Мне было прыемна, калі я глядзела на яго, калі мы прытуляліся, цалаваліся, калі разам бывалі на забавах.

Праўду сказаўшы, „хадзілі" мы толькі тры месяцы. Я адразу яму сказала: тое, што належыцца мужу, атрымаеш тады, калі станеш мужам. Не ведаю, мо таму ён так і прычапіўся, каб хуценька ўзяць шлюб і згуляць вяселле. Мне не карцела выходзіць замуж і было добра так, як ёсць. Аднак жа мы неўзабаве пажаніліся.

У маіх бацькоў быў дом. Пасля вяселля яны адвялі нам „горку" і мы пасяліліся там з мужам. Умовы цудоўныя — ніхто там нам не перашкаджаў ні пакахацца, ні перагаварыцца.

Ну, і з тым каханнем. Я не ўяўляла сабе перад шлюбам, што ўсё будзе так выглядаць. Мама гаварыла мне, што нармальныя палавыя зносіны між мужам і жонкай адбываюцца раз-два ў тыдзень. Мае старэйшыя сяброўкі, як адна, сцвярджалі, што працягваецца гэты акт не больш пяці хвілін.

Рэчаіснасць аказалася цалкам іншая. Мой муж мог кахацца безупынна цэлую ноч. Пачынаў, канчаў, праз паўгадзіны ізноў пачынаў. І так разоў пяць за ноч. Раніцай хацелася спаць, але мне падабалася тое, пра што я раней, перад шлюбам, нават і не думала, а прынамсі не прыдавала гэтаму ніякага значэння.

Мой муж умеў гаварыць столькі пяшчотных слоў пры гэтым, аказваць мне столькі пачуцця, так распаліць мае страсці, што я яго кахала з кожным днём усё больш. І мае бацькі былі задаволеныя, бо бачылі, як мы хадзілі, узяўшыся за рукі, каб і ўначы, і ўдзень быць разам. Ведалі яны, што яднае нас каханне.

Калі я зацяжарыла, мы кахаліся так, як і раней. Хаця лекар параіў мне пе-рарваць палавыя зносіны на пару месяцаў перад родамі, мы кахаліся да апошняга дня. Праўда, рабілі гэта значна асцярожней, але проста пасля „гарачай ночы" я пайшла радзіць.

Усё было ў парадку. Ніякага выкідыша не было. Дзіцятка нарадзілася хутка і здаровенькае. А праз два гады нарадзілася і другое.

Я была крыху змучаная пры малых дзецях, але з мужам усё было па-старому. Наадварот, пасля нараджэння дзяцей я яшчэ больш адчула патрэбу ў сексе.

І вось пішу я табе і думаю, Сэрцайка, што мо ў нас гэта неяк ненармальна ўсё адбываецца. Ужо ж дзесяць гадоў мінула, а нам гэтага кахання мала і мала. Можа табе гэта здасца смешным, але я „іду на павадку" ў мужа. Згаджаюся на розныя фокусы і гэта мне дае задавальненне.

Даражэнькая! Мой муж настолькі немагчымы, што гатоў гэта рабіць усюды, дзе толькі мы разам. У лесе, калі прыедзем у грыбы ці ягады, не перашкаджае яму, што мы замурзаныя і прапацеўшыя, там найчасцей кахаемся каля дрэва. На пляжы выбіраем зацішнае месца і кахаемся пад пледам, калі дзеці спакойна гуляюць пясочкам. Калі мы ў некага ў гасціне, дык знікаем на нейкі час у „ціхі" пакойчык. Найгорш бывае ў цягніку, пакуль не ўгамоняцца дзеці, але, калі едзем далёка, заўсёды бярэм спальны вагон, дык урэшце малыя пазасынаюць. Ну і бяда на забаве, калі на двары зіма. Летам дык можна выйсці на двор...

Скажы, Сэрцайка, можа ўсё гэта анармальнае?!

**Бася**

Бася! У „гэтых" справах нормы няма. Можа быць часцей, можа быць радзей. Даўжэй і хуценька. Толькі ўначы — і ўдзень. У хаце і ў гасцях. У цягніку і на ўлонні прыроды. Усюды, абы не аскандаліцца перад людзьмі і каб не дэманстраваць гэта нікому без патрэбы.

Калі вам з гэтым добра, усё ў парадку. Не адна з жанчынак, прачытаўшы гэта, табе пазайздросціць. А ты дзякуй Богу, што з забавы цябе муж выводзіць, а не нейкую маладую дзяўчыну. Ды і ў „ціхі" пакой з табой аддаляецца. Хадзі далей „на павадку", бо ахвотна падменіць цябе іншая!

**Сэрцайка**